1 лютага 2019 | № 4 (615)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы Час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Шматнацыяналізм праз дзесяць гадоў**

Стар. 8

**4 КРАМЫ ВАЮЮЦЬ. ЦІ ВЫЙГРАЕ ПАКУПНІК?**



**5 АЭС ЗАПУСЦІМ. ШТО ДАЛЕЙ?**

Ядзернае паліва выпрацоўвае свой рэсурс за тры-чатыры гады эксплуатацыі. Але мы дасюль не ведаем, што будзем рабіць з радыеактыўнымі адкідамі



**6–7 У ПОШУКАХ «АНТЫСАВЕЦКАГА ПАДПОЛЛЯ»**

Справа Цюрына ілюструе метады працы КДБ часоў «адлігі», калі «контррэвалюцыйныя арганізацыі» часам інспіраваліся дзяржбяспекай




**10–11 «НАЦЫЯНАЛЬНАЯ КУЛЬТУРА НАРОДУ ЁСЬЦЬ КРЫНІЦАЙ ДУХОВАЕ МОЦЫ»**

Уладзімір Дудзіцкі — enfant terrible беларускай творчай (і палітычнай) эміграцыі

# Атака клонаў

## Што на самай справе стаіць за прэтэнзіямі да газеты?



Сяргей ПУЛЬША

Мы ўжо прызвычаіліся да пільнай увагі з боку розных структураў да нашага выдання. Суды паісках Ізраілевіча і Зайдэса. Перыядычны пераслед журналістаў. Але тут — нешта новае.

Лідар Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці (аказваецца, яна яшчэ існуе) Васіль Задняпраны абурыўся нашымі публікацыямі. «Таварыства беларускай мовы» пераходзіць усе межы. Яго выданне «Новы Час» паблытала мэты. Замест развіцця «мовы» прапагандуе экстрэмізм і ўхваляе барацьбу з Расіяй», — напісаў ён на сваёй старонцы ў Twitter. Задняпранага абурылі нашы публікацыі пра Сцяпана Бандэру, а таксама Джахара Дудаева.

«Чаму маўчаць Анісім (старшыня ТБМ, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім) і Мінінфарм?» — напісаў ён.

А рэдакцыя сайта «Тэлескоп», галоўным рэдактарам якога (паводле інфармацыі на самім сайце) з'яўляецца небезвядомы Леў Крыштаповіч, і ўвогуле выдала «Зварот да Міністра ўнутраных спраў РБ Шуневіча І.А., Генеральнага пракурора РБ Канюка А.В. і міністра інфармацыі РБ Карлюкевіча А.М. Просім прааналізаваць матэрыялы газеты «Новы Час» на прадмет апраўдання і прапаганды міжнароднага тэрарызму, распальвання міжнацыянальнай варожасці і нянавісці, а таксама даць ім афіцыйную ацэнку».

Зварот да афіцыйных асобаў праз сайт (пытанне, ці зарэгістраваны ён у Мінінфарме? На самім сайце пра гэта нічога не сказана) — гэта прыгожа.

На самай справе, у ТБМ сапраўды ёсць газета, але не «Новы Час», а «Наша слова». І Задняпраны, і Крыштаповіч зрабілі памылку, якую зрабіў раней бізнесмен Аркадзь Ізраілевіч, паспрабаваўшы звязаць Алену Анісім і НЧ. Насамрэч, заснавальнік НЧ — Мінская гарадская арганізацыя ТБМ. Аднак ніяк не цэнтральная ТБМ, якой кіруе Анісім. Больш за тое, заснавальнік ніяк не ўмешваецца ў рэдакцыйную палітыку. Яе вызначае калектыў рэдакцыі.

Пазней Ізраілевіч гэтую памылку прызнаў, выбачыўся перад Анісім, і нават ахвяраваў пэўную суму грошай на дзейнасць ТБМ.

Але адэпты «рускага міру» не робяць высноў з чужых памылак і ўпарта прывязваюць «Новы Час» да ТБМ і Алены Анісім. Чаму б ім не ўзяць газету і не паглядзець на выходныя дадзеныя, дзе пазначаныя рэдактар, яе намеснік і нумары тэлефонаў рэдакцыі? Бо гэта мы, а не Анісім, друкавалі артыкул пра Дудаева (які, дарэчы, служыў у Беларусі). Гэта мы друкавалі артыкул пра Яндарбіева як пра паэта, а не баевіка. Гэта мы даем дыскусійныя артыкулы і імкнёмся нікому не адмаўляць у выказванні меркавання.




**На кіраўніка краіны «наехаць» — сабе даражэй. А пазмагацца з мёртвымі Дудаевым, Яндарбіевым і Бандэрам — справа святая. Так?**

Чаму яны выказваюць прэтэнзіі не нам асабіста? На маю думку, атака на «Новы Час» — гэта не атака на газету. Гэта атака на ўсё ТБМ разам. Калі зрабіць выснову, што НЧ друкуе «экстрэмісцкія матэрыялы», то можна сцвярджаць, што і ТБМ сама па сабе — «экстрэмісцкая арганізацыя». І патрабаваць яе закрыцця.

Тэндэнцыя цікавая. Не так даўно шэсць прарасійскіх арганізацый прасілі Генпракуратуру ліквідаваць Партыю БНФ. Нібыта БНФ распаўсюджвае «недарэчныя сцвярджэнні аб нейкай беларускай царкве і абражае пачуцці рускамоўнай большасці беларускага грамадства». Партыю назвалі «праварадыкальнай русафобскай празаходняй апазіцыяй», «ідэйнымі нашчадкамі паліцыі». Аўтары звароту патрабуюць ініцыяваць ліквідацыю БНФ, «улічваючы наяўнасць прыкмет крымінальных злачынстваў».

Раптам спадар генпракурор да іх прыслухаецца. І ліквідуе дзве найстарэйшыя ў Беларусі арганізацыі, якія стаялі ля вытокаў (БНФ заснаваная ў 1988 годзе, ТБМ — у 1989-м), і, не пабаюся гэтых словаў, былі і застаюцца падмуркам беларускай незалежнасці і дзяржаўнасці? Якія больш за чвэрць стагоддзя гэтую незалежнасць і дзяржаўнасць адстойваюць? Што далей?

Далей усе гэтыя «рускаміраўцы» заявяць, што дзяржаўнасць Беларусі — недарэчнасць. Што абвяшчэнне незалежнасці было «валюнтарысцкім рашэннем асобных дэпутатаў» і «не мела падтрымкі народа». Як доказ — няма ніводнай арганізацыі (бо яны ліквідаваныя паводле іх жа просьбаў), якія б гэтую незалежнасць і дзяржаўнасць прасоўвалі. А найстарэйшыя партыі Беларусі — ЛДП, камуністы і тая ж РППС. І дзяржаўным асобам, якія толькі-толькі пачалі ўсведамляць каштоўнасць незалежнасці, проста не будзе чаго запярэчыць… Так?

«Наезд» на «Новы Час», ТБМ і БНФ — гэта падкоп пад беларускую дзяржаўнасць. Не больш, не менш.

Канешне, можа, усё прасцей. Калі Лукашэнка казаў, што «беларусы — рускія са знакам якасці», усе гэтыя «рускаміраўцы» прысмакталіся да розных фондаў кшталту «Рассупрацоўніцтва». А калі афіцыйная парадыгма змянілася, і Лукашэнка больш не называе Расію «братняй дзяржавай», куратары з фондаў сказалі: «Спадарства! Грошыкі адпрацоўваць трэба!»

На кіраўніка краіны «наехаць» — сабе даражэй. А пазмагацца з мёртвымі Дудаевым, Яндарбіевым і Бандэрам — справа святая. Мёртвым не баліць жа, так?

# Зноў два Дні Волі?

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**У беларусаў дзве мовы, два сцягі, два гербы, два (як мінімум) дні незалежнасці… Чарговае «падваенне асобы» здарылася на гэтым тыдні вакол святкавання Дня Волі.**

Стала вядома, што Рух «За Свабоду», БСДП «Грамада», аргкамітэт партыі БХД, АГП падалі яшчэ адну заяўку на святкаванне Дня Волі. Яны плануюць правесці мітынг ля Опернага тэатра ў 16 гадзін у панядзелак, 25 сакавіка.

Нагадаю, за некалькі тыдняў да гэтага ГА БНФ «Адраджэнне» і «АртСядзіба» абвясцілі аб пачатку падрыхтоўкі да Дня Волі–2019, які хочуць адзначыць у нядзелю, 24 сакавіка, шэсцем па вуліцы Кастрычніцкай і святочным мітынгам і канцэртам на стадыёне «Дынама». Адпаведная заяўка таксама была пададзеная ў Мінгарвыканкам, таксама ў інтэрнэце распачаўся збор грошай на арганізацыю свята. Пры гэтым заяўнікі абгрунтавалі выбар месца для святкавання. Менавіта на стадыёне «Дынама» 30 гадоў таму, 19 лютага 1989 года, адбыўся першы дазволены мітынг пад бел-чырвона-белымі сцягамі. Да таго ж інфраструктура стадыёна дазваляе камфортна змясціць больш за 30 тысяч чалавек, а таксама выключыць магчымыя праблемы для арганізатараў пры дрэнным надвор'і. Канцэрт незалежнасці на стадыёне (ужо гучыць!) са сцэнай і вялікімі экранамі абяцае быць відовішчным, і ўсё гэта, на думку арганізатараў, дазволіць стварыць сапраўднае свята беларускага адзінства.

Не, я не супраць грандыёзнага святкавання Дня Волі ў розныя дні, у розных гарадах і ў розных фарматах. Чым больш шырока будуць адзначацца ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР, тым лепш. Але ж трэба зыходзіць з сітуацыі (наўрад ці ўлады дазволяць адразу два мерапрыемствы, прысвечаныя 25 Сакавіка) і дзейнічаць адпаведна трэндам (здавалася б, мінулагодні досвед яскрава паказаў, які фармат святкавання прыцягне найбольшую колькасць беларусаў). Час ужо зразумець, што манатонныя мітынгі, на якіх штораз прагаворваюцца адны і тыя ж мантры, даўно нікому не цікавыя. І зусім не таму, што народ у нас аморфны. Новае пакаленне беларусаў — разумныя, актыўныя, гатовыя працаваць дзеля пераменаў людзі. І, як сведчыць #БНР100, трэба толькі даць ім крыху прасторы для крэатыву — і яны сябе праявяць.

Канешне, конь вольны араць сваю баразну. Але наўрад ці на ёй узыдзе надзвычайны ўраджай ці яна выведзе да новага поля. А вось да падваення асобы, што, як спявае Лявон Вольскі, зрывае нам дах, — лёгка.

# Беларусізаваць гарадскую коўзанку

Марыя ВЕРАС

**Случчане просяць уключыць беларускія песні ў рэпертуар музычнага суправаджэння гарадской коўзанкі. Пад калектыўным зваротам у мясцовы гарадскі аддзел спорту і турызму падпісаліся 40 чалавек.**

На гарадскім стадыёне Слуцка ў студзені запрацавала коўзанка. Дарослыя і дзеці маюць магчымасць коўзацца ў выходныя дні. Каб ім было весялей гэта рабіць, з ранку і да вечара гучаць песні. На жаль, толькі рускамоўныя.

— Мяне ўжо «дастаў» у Слуцку навакольны «рускі свет». Куды ні пойдзеш — шыльды і ўказальнікі аформленыя па-руску, чыноўнікі размаўляюць толькі на рускай мове, у крамах прадаўцы абслугоўваюць таксама толькі па-руску, — гаворыць адзін з падпісантаў звароту Уладзімір Адзярыха. — Расійская «папса» пануе на розных святочных мерапрыемствах горада. Цяпер і на выходных нельга пагуляць у гарадскім парку, што месціцца побач з катком, бо з катка нахабна лезе ў вушы «рускі свет», адмыслова ўзмоцнены гукавымі ўзмацняльнікамі.

Па словах Уладзіміра, яго знаёмыя, якія жывуць у цэнтры горада, па гэтай прычыне перасталі выходзіць на вуліцу па выходных.

Жыхарка горада Святлана мае працоўнае месца непадалёку ад гарадскога стадыёна.

— Мне вельмі добра чутна музыка. Яна гучыць на выходных на працягу дня, — дзеліцца сваімі думкамі жанчына. — Я люблю слухаць музыку і песні, але мяне здзіўляе, чаму нельга ўключыць штосьці і на роднай мове. У нашай краіне існуе шмат цудоўных беларускіх песень, розных беларускамоўных груп. Мне было б вельмі прыемна іх пачуць.

З гэтай нагоды старшыня Слуцкага таварыства беларускай мовы Зінаіда Цімошак накіравала асабісты зварот на імя начальніка аддзела спорту і турызму Аляксандра Вежнаўца.

Яна просіць уключыць беларускія песні ў праграму музычнага суправаджэння коўзанкі. Таксама яна нагадвае чыноўніку аб тым, што случчане жывуць у краіне пад назвай «Беларусь», дзе дзейнічае заканадаўства аб дзвюх дзяржаўных мовах, і трэба праяўляць павагу не толькі да мовы іншага народа.

# Рыхтуюць новыя «лісты шчасця»

Павел КІРЫЛАЎ

**Публічнае абмеркаванне праекта прэзідэнцкага ўказа «Аб плацяжах за ўдзел у дарожным руху», распрацаванага Міністэрствам фінансаў, было абвешчанае на пачатку студзеня на Нацыянальным праваным інтэрнэт-партале. Да 1 лютага ён павінен быць накіраваны на разгляд кіраўніку краіны.**

Паколькі праблема рэзанансная і закранае амаль усё насельніцтва, бліжэйшым часам варта хіба чакаць на гэты конт выказванняў Аляксандра Лукашэнкі або нават цэлай нарады.

Асноўнае ў змесце ўказа «Аб плацяжах за ўдзел у дарожным руху» — адвязванне аплаты дарожнага збору ад праходжання тэхагляду. Запрацаваць новая схема павінна ці то з 1 красавіка, ці то з 1 ліпеня. Хутчэй за ўсё, з другой паловы года, бо новаўвядзенні запатрабуюць зменаў у шэрагу іншых заканадаўчых дакументаў — такіх як, напрыклад, Кодэкс аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Нагадаем, што праходжанне тэхнічнага агляду абумовілі аплатай дарожнага збору з 2014 года. Сума залежала ад года выпуску і вагі машыны, а таксама ад таго, чый аўтамабіль — юрыдычнай або фізічнай асобы. Плюс — асобныя выдаткі за ўласна тэхагляд аўто.

У выніку многія кіроўцы вырашалі не плаціць гэты транспартны падатак і, адпаведна, не праходзіць тэхагляд. Заплаціць штраф за такое парушэнне ПДР, хай нават і некалькі разоў, было танней. Такую тактыку ігнаравання тэхагляду агулам абрала траціна беларускіх кіроўцаў.

## Зніжкі і штрафы

Што ж канкрэтна прыдумалі ў Мінфіне, які распрацаваў новую схему плацяжоў? Устанавіць памесячную стаўку ў залежнасці ад віду і масы транспартнага сродку. За легкавік да 1,5 тоны — 0,25 базавай велічыні, ад 1,5 да 2,5 тоны — 0,5 б.в., ад 2 да 3 тонаў — 0,67 б.в., болей за 3 тоны — 0,92 б.в. За матацыкл — 0,17 базавай велічыні, якая цяпер складае 25,5 рубля.

А вось ІП будуць плаціць па старых правілах. Ад платы вызваляць асобаў, якім належаць аўтамабілі, спецыяльна абсталяваныя для выкарыстання інвалідамі. Палова стаўкі — для ветэранаў, а таксама інвалідаў 1 і 2 групаў.

Мінімум трэба заплаціць за месяц, максімум можна за два гады наперад. На вялікі перыяд — зніжкі. Так, пры аплаце за 12 месяцаў і болей будзе ўжыты каэфіцыент 0,8%. Аплата ўносіцца праз АРІП.

Кантралявацца аплата будзе праз фота- і відэафіксацыю рэгістрацыйных знакаў аўтамабіляў з наступнай праверкай па адмысловай базе. Калі выявіцца, што аплата не здзейсненая, уладальніку такой машыны прыйдзе «ліст шчасця» — і давядзецца аплачваць тарыф у падвойным памеры. Такая самая сістэма кантролю і маніторынгу будзе наладжана і датычна таго, пройдзены ці не тэхагляд.

## Народ супраць

Як жа выказаўся народ падчас грамадскага абмеркавання? Першая і самая папулярная думка: ад гэтага самага абмеркавання нічога не залежыць, да нас усё адно не прыслухоўваюцца. Другая: дарожны збор трэба проста ўключыць у кошт паліва — і не мудраваць. І многія прагназуюць, што кіроўцы знойдуць, як пазбегнуць аплаты праз падман фота- і відэафіксатараў.

Асабліва дасталася начальніку галоўнага ўпраўлення падатковай палітыкі і даходаў бюджэту Мінфіна Ігару Пуркаліку, які так патлумачыў, чаму нельга ўключаць дарожны збор у кошт бензіну ці дызельнага паліва: «Паліва выкарыстоўваецца ў самых розных сферах — рачным суднаходстве, лясной гаспадарцы, у ЖКГ. Не забудзьце на газонакасілкі на прысядзібных участках, маторныя лодкі, льготных спажыўцоў паліва. Рыбакі, напрыклад, не зразумелі б, каб ім прапанавалі плаціць за дарогі, хоць яны ловяць рыбу на возеры».

Між тым, чыноўнік разлічвае на плён ад тлумачальнай працы, якая пакажа ліберальнасць распрацаванай сістэмы і разам з тым яе жорсткасць, «таму што плаціць давядзецца ўсім».

Што да тэрмінаў аплаты, незадаволенасць нікуды не знікла: «Давайце дамо магчымасць аплачваць не за месяц, а за дзень. Чаму я павінен плаціць за цэлы месяц, калі я карыстаюся машынай толькі па выходных днях? Тым болей плаціць можна будзе праз АРІП»; «Я жыву ў вёсцы за 30 кіламетраў ад Гомеля і 3–4 разы езджу ў горад улетку, а ўзімку — 1–2 разы на месяц. Астатні час аўтамабіль стаіць у гаражы».

Вось грунтоўна выкладзеная пазіцыя аднаго з кіроўцаў пра слушнасць уключэння плацяжоў за ўдзел у дарожным руху ў кошт паліва ці энергіі для электрамабіляў, каб потым прадаўцы пералічвалі пэўную падатковую долю ў рэспубліканскі дарожны фонд. Па-першае, гэта дазволіць рэалізаваць прынцып сацыяльнай справядлівасці: «Ездзіш — плаціш, маеш вялікі і больш магутны аўтамабіль — плаціш больш. Адпадае неабходнасць уводзіць каэфіцыенты». Па-другое, таксама можна будзе атрымліваць падатак з замежнага транспарту, які перасякае Беларусь транзітам ці які ў нас знаходзіцца пастаянна: «На дадзены момант у памежных абласцях маецца значная колькасць транспарту з расійскай рэгістрацыяй, які эксплуатуецца грамадзянамі Беларусі, што не праходзяць тэхагляд і нічога не плацяць».

Маю ўвагу прыцягнуў і такі допіс: «Лепей наогул адмяніць гэты збор, прынамсі, да заканчэння выбараў». Натуральна, што ўлады, апрача эканамічнай калькуляцыі, мусяць ацэньваць і палітычныя наступствы свайго рашэння. Але ці ацэньваюць, улічваючы, як у нас праходзяць выбары?

# Снегавік аштрафаваны

**У судзе Брэсцкага раёна 30 студзеня прайшоў суд над Юліяй Нічыпарук, якую абвінавацілі ў несанкцыянаваным пікетаванні за тое, што павесіла ўлёткі і налепкі на снегавікоў, якіх зляпілі яе дзеці.**

Суддзя Сяргей Маручак прызнаў яе вінаватай паводле ч. 1 арт. 23.34 КаАП і аштрафаваў яе на 25,5 рублёў.

Юлія Нічыпарук у судзе казала, што да з'яўлення акумулятарнага завода ўвогуле ніколі ні ў якіх акцыях не ўдзельнічала, жыла звычайным жыццём. Яе сям'я збудавала дом, за 2 кіламетры ад якога і пачалі будаваць завод.

Яна не лічыць сябе вінаватай: «Дзеці папрасілі ўпрыгожыць снегавікоў, што было — тое і наляпілі. Сэнс улётак і налепак адлюстроўвае наша стаўленне да завода. Мы катэгарычна супраць пабудовы завода ў гэтым месцы. З пратаколам не згодная».

Але нягледзячы на гэта суд прызнаў яе вінаватай у «несанкцыянаваным пікеце». З улікам таго, што яна з'яўляецца маці двух непаўнагадовых дзяцей і ўпершыню здзейсніла правапарушэнне, суддзя прысудзіў ёй штраф памерам у адну базавую велічыню (25,5 рубля).

spring96.org

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Як яно не працуе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Я не перастаю здзіўляцца фінтам і вывертам нашай прапаганды. І не перастаю думаць, што, калі адбудзецца сацыяльны выбух, то найперш у гэтым працэсе трэба будзе вінаваціць не ўрад, не кіраўніка краіны, а прапагандыстаў усіх узроўняў, якія выдаюць жаданае за дзейснае. А можа, яны свядома падрываюць нашу стабільнасць?**



Фота www.prostofinovo.ru

Напрыклад, па ўсіх каналах праляцелі дадзеныя Белстата. Сярэдні заробак у Беларусі ўпершыню перавысіў планку ў тысячу рублёў! «Па пяццот» нарэшце дасягнутыя! У снежні сярэдні заробак склаў 1115 рублёў 30 капеек — 523 долара па курсе. Год таму, у снежні 2017-га, да тысячы ледзь не дацягнулі.

Але як цікава піша пра гэта, напрыклад, «Гродзенская праўда»! «Сярэдні заробак статыстыкі лічаць не для таго, каб мы з вамі параўноўвалі гэтыя дадзеныя са сваім гаманцом. Лічбы, найперш, разлічаны на ўрад, і выкарыстоўваюць іх для прагнозу сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, а таксама пры разліку пенсій і розных дапамог», — адзначае выданне.

То бок, калі вы не адчулі ў вашым гаманцы тысячу рублёў — не хвалюйцеся! Насамрэч, няма ніякага падвышэння! Гэта «статыстыкі лічаць для ўраду». Хіба не самае праўдзівае азначэнне нашай афіцыйнай статыстыкі!

А што ж не афіцыйна? А не афіцыйна тое, што насамрэч задачу давесці сярэдні заробак да 1000 рублёў мы не выканалі. Як адзначае фінансавы кансультант Жанна Кулакова, сярэдні заробак па выніках студзеня — снежня 2018 года складае каля 960 рублёў. «Снежаньскі рост заробку — звычайная з’ява, звязаная з тым, што ў гэтым месяцы ў многіх кампаніях выплачваюцца гадавыя прэміі, «трынаццатыя зарплаты» і да таго падобнае. Гэта паўтараецца з года на год. З упэўненасцю ў 100% можна казаць, што ў студзені адбудзецца істотны адкат», — адзначае яна.

Больш за тое: заробкі растуць занадта хутка і ў адрыве ад прадукцыйнасці працы. Гэта павялічвае рызыкі для цэнавай стабільнасці і валютнага рынку. Тое, што мінулы год прайшоў адносна спакойна, не азначае, што ў гэтым годзе мы не адчуем наўмыснага адміністрацыйнага росту заробкаў наступстваў.

З ускосным пацвярджэннем таго, што заробкі растуць адміністрацыйна, выступіў дзяржаўны камітэт па маёмасці Беларусі. Ён чарговым разам апублікаваў пералік прадпрыемстваў, частку дзярждолі ў якіх плануецца прадаць у 2019 годзе. У спісе 23 адкрытых акцыянерных таварыствы, сярод якіх ёсць невялікія прадпрыемствы, але ёсць і флагманы прамысловасці — напрыклад, «Гомсельмаш», БАТЭ і «Гарызонт».

Выбачайце, як мы можам казаць, што заробкі растуць, калі нават такія прадпрыемствы — стратныя, і мы гатовыя іх прадаваць?

Праўда, прадаваць, як заўсёды, мы будзем іх спецыфічна — так, каб ніхто не набыў. Дзяржава гатовая саступіць патэнцыйнаму інвестару толькі да 49,9% акцый, што робіць перспектывы продажу гэтых актываў практычна нерэальнымі. То бок, дзяржава не саступае інвестару працэс кіравання. А патрабуе пры гэтым ад патэнцыйнага інвестара, напрыклад, у дачыненні да «Гомсельмаша», інвеставаць не менш за 500 мільёнаў долараў.

Палова мільярда долараў! У Дзяржкаммаёмасці альбо здзекуюцца, альбо, выбачайце, галавы не маюць. Бо за такія грошы можна «з нуля» пабудаваць прадпрыемства, роўнае «Гомсельмашу». І пры гэтым — не абцяжаранае пазыкамі і са 100% акцый ва ўладальніка. А не 49,9%, як прапануе дзяржава.

Для параўнання: «Штадлер», які робіць у Беларусі цягнікі, плануе ўдвая павялічыць вытворчасць у 2019 годзе. З гэтай мэтай будуюцца новыя вытворчыя памяшканні. І на падваенне вытворчасці швейцарская кампанія плануе выдаткаваць ад 25 да 35 мільёнаў еўра. Мільёнаў, а не паўмільярда, чаго патрабуюць для «Гомсельмаша»!

Адкуль бяруцца такія лічбы? Кіраўнік цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук кажа, што ацэнка кошту прадпрыемстваў вызначаецца «з улікам усіх раней укладзеных сродкаў на мадэрнізацыю і іншых датацый».

Што ж, калі ўлічыць, што «Гомсельмаш» быў заснаваны ў 1930-м годзе, можа, за ўсе гэтыя часы яго вартасць і складае азначаную Дзяржкаммаёмасцю суму. Але пры гэтым таксама трэба ўлічваць і амартызацыю, і тое, што завод будаваў СССР, а не ўласна Рэспубліка Беларусь.

І, канешне ж, ва ўмовах, калі мы дасягнулі заробку большага за тысячу рублёў, цікавая статыстыка працаўладкавання. Паводле звестак Белстата, у мінулым годзе арганізацыі звольнілі амаль 715 з паловай тысяч работнікаў, а прынялі на працу на 42 тысячы чалавек менш. Работнікаў звальнялі ў такіх галінах, як будаўніцтва, фінансы і страхаванне, у сельскай, лясной, рыбнай гаспадарках, у навуковай і тэхнічнай дзейнасці, у прамысловасці і адукацыі. У снежні мінулага года ў эканоміцы было занята 4 мільёны 336 тысяч чалавек, годам раней — амаль на 10 тысяч больш.

Так і хочацца сказаць, як Станіслаўскі: «Не веру!». Калі мы дасягнулі такіх вяршыняў у аплаце працы, чаму людзі сыходзяць з працоўных месцаў?

А вось дзе мы істотна губляем грошы, замест таго, каб іх атрымліваць — дык гэта на ініцыятыве людзей. Днямі ў Пінску прадпрымальнікі на рынку паставілі рэкорд, варты занясення ў кнігу Гінэса. Даведаўшыся пра магчымую праверку з боку кантралюючых органаў, 600 прадпрымальнікаў згарнулі сваю дзейнасць і зачынілі свае гандлёвыя кропкі... за дзве хвіліны!

Паводле меркавання прадстаўнікоў прадпрымальніцкага аб’яднання «Перспектыва», падзеі ў Пінску — першы званочак ураду, які кажа пра тое, што трэба сядаць з прадпрымальнікамі за стол перамоваў і вырашаць назапашаныя праблемы, якія ляжаць ужо даўно ў іх на стале. Па маім меркаванні, гэта азначае, што ўрад трэба адпраўляць у адстаўку цалкам, і новы не прызначаць увогуле. А разам з урадам выправіць у адстаўку ўсе кантралюючыя органы.

Бо высвятляецца, што не працуе «фундаментальны» дэкрэт №7 кіраўніка дзяржавы пра развіццё прадпрымальніцтва. Кантрольныя органы па-ранейшаму «чысцяць» рынкі, патрабуючы ад прадпрымальнікаў сертыфікаты на прадукцыю, набытую ў Расіі. А прадпрымальнікі па-ранейшаму пакутуюць, бо ў Расіі з іх смяюцца: «Якія сертыфікаты? У нас такога няма!» І ніякія Мытныя саюзы, ЕАЭС, ЕЭП і іншае — нішто не можа пераканаць нашых кантралёраў у тым, што іпэшнікі, насамрэч, нічога не парушаюць.

Але і кантралёраў можна зразумець. Што ім рабіць, калі ў іх — план па штрафах?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Святлана Алексіевіч



**Брытанская газета «Guardian» апублікавала адкрыты ліст трыццаці інтэлектуалаў, занепакоеных грамадскімі настроямі ў Еўропе.**

Сярод тых, хто падпісаў ліст, — філосаф Бернар-Анры Леві, пісьменнікі Марыё Варгас Льёса, Архан Памук, Салман Рушдзі, Людміла Уліцкая, Мілан Кундэра і беларуская Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч.

На іх думку, галоўная пагроза зыходзіць ад папулістаў, якія граюць паняццямі «нацыянальнага духу» і заклікаюць еўрапейскія краіны аднавіць «згубленую ідэнтычнасць».

«Еўропу атакуюць ілжэпрарокі, ап’янёныя крыўдай, і якія мараць пра магчымасць апынуцца ў прамянях славы. Еўропу пакінулі яе найвялікшыя саюзнікі, што двойчы ў мінулым стагоддзі ратавалі яе ад самагубства. Адзін з іх — па той бок Ла-Манша, другі — па той бок Атлантыкі. Кантынент уразлівы для ўсё больш нахабнага ўмяшання гаспадара Крамля. Еўропа як ідэя руйнуецца ў нас на вачах», — пішуць аўтары.

«У гэтай атмасферы ў траўні адбудуцца парламенцкія выбары ў Еўропе. Калі нічога не зменіцца, калі не з’явіцца новы дух супраціву, гэтыя выбары абяцаюць быць самымі згубнымі з усіх, што мы ведалі... Праз тры чвэрці стагоддзя пасля перамогі над фашызмам і праз 30 гадоў пасля падзення Берлінскай сцяны ідзе новая бітва за цывілізацыю... Гэта самы сур’ёзны выклік з 1930-х гадоў», — робяць выснову аўтары звароту.



## Зміцер Паліенка

**Актывіста анархісцкага руху зноў затрымалі ўвечары 29 студзеня — нібыта за экстрэмісцкі пост у сацсетках.**

«Былы палітвязень Зміцер Паліенка зноў затрыманы. На гэты раз — па адміністрацыйнай справе аб экстрэмізме (нібыта за пост у сацсетках)», — пішуць праваабаронцы.

Зміцер Паліенка вызваліўся ў кастрычніку 2018 года пасля трохгадовага турэмнага тэрміну. З таго часу ціск на яго не спыняецца: было складзена ўжо не менш за чатыры адміністрацыйныя пратаколы — за ненаведванне лекцый у РУУСе і «экстрэмісцкія» допісы ў сацсетках. Тыдзень таму Зміцера Паліенку і яшчэ двух актывістаў затрымалі па крымінальнай справе аб нанясенні графіці. Трое сутак яны правялі ў ІЧУ, дзе падвяргаліся здзекам.

Зміцер Паліенка пісаў аб сустрэчы са сваім участковым, які патрабаваў зайсці да яго для дачы тлумачэнняў. Міліцыянт заявіў: «Ты ж разумееш, так будзе бясконца».

Паліенку 31 снежня аштрафавалі на 50 базавых велічыняў.

## Генадзь Грушавы

**На гэтым тыдні споўнілася пяць гадоў, як пайшоў з жыцця Генадзь Грушавы — доктар філасофскіх навук, прафесар. У Беларусі і далёка за яе межамі ён быў вядомы як заснавальнік і нязменны кіраўнік Беларускага дабрачыннага фонду «Дзецям Чарнобыля», які дапамог больш як мільёну жыхароў нашай краіны, што пацярпелі ў выніку самай жахлівай тэхнагеннай катастрофы ХХ стагоддзя.**



Без дапамогі ўлады, а часта нават і насуперак ёй, БДФ «Дзецям Чарнобыля» атрымалася накіраваць на аздараўленне ў дзясяткі краінаў свету больш за 600 тысяч беларускіх дзетак.

Дзякуючы фонду і асабіста Грушаваму на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў Беларусь паступілі многія тысячы тон гуманітарнай дапамогі, лекаў, экалагічна чыстых прадуктаў. Унутры краіны, у забруджаных радыенуклідамі раёнах, з’явіліся дзясяткі арганізацый самадапамогі, стварэнне якіх ініцыяваў і аб’ядноўваў Фонд Грушавога.

Сам Генадзь Грушавы захварэў на лейкемію — хваробу (як ён сам казаў), супраць якой змагаўся ўвесь час існавання фонду. Многіх выратаваў, а сам выратавацца не здолеў.

# Крамы ваююць. Ці выйграе пакупнік?

Павел КІРЫЛАЎ

**У Беларусі — новая хваля канкурэнтнай барацьбы ў раздробным гандлі паміж буйнымі сеткамі і невялікімі крамамі. У арбітры залучаны МАРГ — Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю. У эмацыйнай дыскусіі завочна бярэ ўдзел і Аляксандр Лукашэнка. А што з таго нам, пакупнікам?**




## Скарга-крыўда

Беларускія бізнес-саюзы напісалі ліст кіраўніку МАРГ Уладзіміру Калтовічу, у якім турбуюцца нацыянальнымі інтарэсамі: «Фактычна, манапольныя пазіцыі ў сферы рознічнага гандлю ў краіне захопліваюць структуры, якія альбо належаць замежным контрагентам, альбо атрымалі велізарнае фінансаванне з-за мяжы на ажыццяўленне сваёй экспансіі. Часцей — і першае, і другое. У агляднай перспектыве менавіта гэтыя сеткі будуць вызначаць, хто з беларускіх вытворцаў стане паўнавартасна пастаўляць на беларускі рынак свой тавар, а хто — не». І робяць выснову: «Пры высокім узроўні залежнасці сферы рознічнага гандлю краіны ад замежных контрагентаў рэзка ўзрастаюць рызыкі страты эканамічнага суверэнітэту нашай дзяржавы».

Каб не быць галаслоўнымі, бізнес-саюзы прыводзяць канкрэтны прыклад фабрыкі «Віцьба», у якой сетка «Еўраопт» працяглы час адмаўлялася браць прадукцыю на рэалізацыю. Рытэйл-адмыслоўцы кажуць, што, сапраўды, гэта нярэдкае наступства складаных перамоваў па кантрактах паміж сеткавымі крамамі і вытворцамі-пастаўшчыкамі. Не дамовіліся — і пакупнікі могуць заўважаць, што нейкі папулярны прадукт раптам знікае з крамаў, у якіх яны звычайна закупляюцца.

Бізнес-саюзы наракаюць, што ў большасці выпадкаў так здараецца менавіта праз дыктат буйных гандлёвых сетак. У малым і сярэднім бізнесе вытворцы не ў стане прадставіць патрабаваныя зніжкі, бонусы, платы за паліцы, бо ў іх не такія маштабныя аб'ёмы прадукцыі. Прагноз дзелавых колаў: адбудзецца звужэнне асартыменту айчынных тавараў у гандлёвай сетцы і пагаршэнне іх якасці.

Апроч таго, манаполія рызыкоўная тым, што ў выпадку крызіснай неплацежаздольнасці буйных сетак можа здарыцца эканамічны калапс па ўсёй краіне. Прасцей кажучы, пустыя паліцы, рост коштаў і гэтак далей. Той самы «Еўрагандаль» са сваімі крамамі «Еўраопт», «Бруснічка» і нядаўна адкрытымі «Хіт! Экспрэс» сапраўды мае запазычанасці перад банкамі, пастаўшчыкамі, будаўнічымі арганізацыямі. З іншага боку, крэдытаванне — звычайная справа пры маштабаванні бізнесу.

У «Еўрагандлі» адрэагавалі на абвінавачванне ў звышпрыбытках і ўціску вытворцаў лічбамі. Рэнтабельнасць па чыстым прыбытку многіх гандлёвых сетак — ад 0,5 да 1%, а ў іх у 2017 годзе было 1,03%, у 2018-м — 0,5%. У вытворчых прадпрыемстваў — ад 6% да 16%. Маўляў, набылі вы літр малака: «Еўраопт» заробіць на гэтым 1 капейку, а вытворца — каля 6. Ну, і натуральны аргумент: калі ласка, ідзіце ў іншыя гандлёвыя сеткі. Сваімі перавагамі «еўраоптаўцы» лічаць добра арганізаваную лагістыку і актыўныя продажы, у тым ліку па-за вялікімі гарадамі.

Што да ліста бізнес-саюзаў, то яго тут палічылі спробай бізнесоўцаў, якія маюць свае крамы і не вытрымліваюць канкурэнцыі, здабыць прэферэнцыі сабе і паставіць перашкоды іншым. А дробнай розніцы параілі развівацца ў спецыялізаваных нішах кшталту пякарняў, кавярняў і мясных лавак, як ва ўсім свеце.

## Удачу ў краме больш не купіш?

Як бы тое ні было, антыманапольнае міністэрства адрэагавала стварэннем адмысловай міжведамаснай камісіі і анансавала хуткія змены ў працы гандлёвых сетак. А інакш быць не магло, бо месяц таму па праблеме выказаўся на нарадзе з мінскімі ўладамі і Аляксандр Лукашэнка: «Трэба сур'ёзна звярнуць увагу на сеткавых монстраў, якія квітнеюць і пахнуць. Я ведаю, чаму. У вашага былога мэра занадта блізкія былі адносіны з некаторымі гандлярамі. Я гэта таксама вельмі добра ведаю, гэта адна з прычын, чаму ён сёння ўжо не працуе».

«Ні ў якім разе нельга загубіць крамы крокавай даступнасці. Гэтыя крамачкі, лавачкі павінны існаваць. Нельга, маючы пад бокам вопыт Заходняй Еўропы, ісці іншым шляхам. Там гэтыя кавяранькі і крамачкі ўсцяж і побач, і людзі з задавальненнем іх наведваюць», — казаў кіраўнік дзяржавы.

Зрэшты, тое самае ён казаў і пяць гадоў таму. Уласна ж гэты віток супрацьстаяння пачаўся летась з прапановы «Еўрагандлю» павялічыць цяперашнюю манапольную столь, па дасягненні якой уводзяцца інфраструктурныя абмежаванні, з 20% да 35%. Або наогул скасаваць гэты ліміт. Прапанова не прайшла, а цяпер МАРГ можа ўстанавіць мяжу, пасля якой гандлёвая сетка будзе лічыцца дамінантай, у 15%. Міністэрскія эксперты апасаюцца, што манаполія можа ўзвінчваць кошты.

Таксама вядзецца дыскусія, якім чынам абмежаваць рэкламу буйных гандлёвых сетак. Напрыклад, дробныя сеткі не могуць ладзіць такія рэкламныя гульні, як цяперашнія разыгранкі «Еўраопту» з машынамі і кватэрамі ў якасці прызоў. Да ўсяго гэта выглядае як латарэйная дзейнасць, бо разыгрываюцца ж не тавары ўласных марак ці агулам з асартыменту. Апрача таго, плануецца, што сукупны памер узнагароджання, які гандлёвыя сеткі змогуць браць з пастаўшчыкоў харчавання, не будзе перавышаць 5% ад аб'ёму пастаўкі.

Што да долі на рынку, то дакладнай статыстыкі няма. Але па ўскосных дадзеных і некатарых выказваннях чыноўнікаў і бізнесоўцаў можна зрабіць выснову, што цяпер «Еўрагандаль» амаль наблізіўся да 20%. У 8 разоў меней доля на рынку «Кароны», якая ідзе на другім месцы, як казаў неяк міністр Калтовіч. У Топ-10 паводле памеру гандлёвых плошчаў аналітыкі Belretail.by уключылі: «Алмі», «Рублёўскі», «Гіпа», «Суседзі», «MartInn, «БелМаркет», «Веста», «Віталюр». Па колькасці крамаў «дзясятка» выглядае так: «Еўраопт», «Дабраном», «Капеечка», «Бруснічка», «Суседзі», «Санта», «Веста», «Рублёўскі», «Дамашні» і «БелМаркет».

## Вырашае гаманец

Праблема развіцця гандлю — безумоўна, значная для нацыянальнай эканомікі. Рытэйл займае другое месца сярод усіх галінаў па ўнёску ў ВУП — амаль 10%. Але што на пабытава-спажывецкім узроўні нам, пакупнікам? А пакупнікі кіруюцца перадусім коштамі, асабліва пры нізкіх заробках і пенсіях, а затым — камфортам.

Крыху маркетынгавай сацыялогіі пра пакупніцкія прыхільнасці мінчукоў і мінчанак, прадстаўленыя пры канцы 2018 года кампаніяй Nielsen на адным з бізнес-форумаў. Прымярайце да сябе!

Прадказальна, што 70% сярод пакупнікоў — жанчыны. Прычым больш за ўсё з іх ад 35 да 49 гадоў — 39%. Цікава, што даследчыкі кажуць: 30% мужчын сярод пакупнікоў — гэта шмат, у суседніх з Беларуссю краінах — каля 20%. А самы шопінгалюбны ўзрост мінчукоў — 25–34 гады (41%).




Сярод мэтаў пакупак на першым месцы — папаўненне харчовых запасаў (38%), прыгатаванне страваў (19%), паўсядзённыя патрэбы (16%). Сярэднія чэкі на гэта — адпаведна 32, 31 і 21 рубель. Для параўнання, на бязмэтавы шопінг ці для задавальнення, а таксама з нагоды прывабнай акцыі прыпадае ўсяго па 1%. Дарэчы, толькі чвэрць мінскіх пакупнікоў вывучаюць рэкламныя ўлёткі — расстройства для маркетолагаў. І дзеля зніжак жыхары сталіцы не здраджваюць звыклай краме з новай.

Сярод мінскіх пакупнікоў шмат тых, хто схільны да незапланаваных пакупак. Перадусім гэта тычыцца садавіны і гароднiны, гатовай мясной прадукцыі, шакаладу і печыва.

Эксперты адзначаюць такія сусветныя трэнды, якія неўзабаве запануюць і ў нас: дзеля эканоміі часу і больш свежых прадуктаў ды праз змяншэнне колькасці чальцоў сям'і, людзі будуць усё больш закупляцца праз анлайн-дастаўкі і ў крамах каля дома. Так што крамы малога фармату і крокавай даступнасці чакае рэнесанс. І тут «Еўрагандаль» трымае руку на пульсе, арганізуючы е-дастаўку і размяшчаючы свае драбнейшыя крамы ў жылых кварталах. Але тут канкураваць з ім шанец ёсць. Канкурэнцыя ж, у сваю чаргу, спрацуе на гаманец пакупніка.

Натуральна, што ў малых гарадах і сельскай мясцовасці ўзрастае значнасць і таго, якія лічбы на цэнніках, і тое, як далёка крама знаходзіцца. І тут уладальнікі «еўраоптаўскіх» крамаў вельмі шмат гавораць пра клопат пра народ. Яны сапраўды прыходзяць у глыбінку крамамі і аўталаўкамі, арганізуюць бясплатныя аўтобусныя падвозы. Напісаныя некалькі дзясяткаў калектыўных зваротаў насельніцтва аб будаўніцтве ў іх мясцовасці крамаў «Еўраопт». Менавіта імі махаюць перад чыноўнікамі рознага рангу ўладальнікі гэтай сеткі, калі вымагаюць павялічыць манапольную столь.

Але кіраўнік МАРГ пільны: «Калі пад выглядам вырашэння праблем на сяле ёсць жаданне змяніць сітуацыю на рынку, адбудзецца пераразмеркаванне фінансавых патокаў і пакупнікоў, і мы атрымаем слабакіраваную сітуацыю з пункту гледжання манапалізацыі рынку. Тут ёсць рызыкі для вытворцаў. Сетка патрабуе «глыбокія» зніжкі па лідарскіх таварных пазіцыях, гэтыя зніжкі не транслююцца на пакупнікоў, ёсць высокія гандлёвыя надбаўкі, узмацненне дыскрымінацыі пастаўшчыкоў адбываецца ва ўсіх рэгіёнах».

Зрэшты, схема прадастаўлення бізнес-палёгкаў наўзамен сацыяльна-эканамічнай функцыі можа быць часткова ажыццёўленая. Ёсць варыянт, што ў выніку манапольную планку датычна долі на рынку зробяць рознай па краіне — умоўна 15–20% у Мінску і абласных цэнтрах і 25% па раёнах.



# АЭС запусцім. Што далей?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Неўзабаве павінен адбыцца «прарыў» — пуск Беларускай атамнай станцыі. Прынамсі, паліва для БелАЭС ужо гатовае і, згодна з планам, загружанае ў рэактар яно павінна быць у 2019-м. Але што будзе потым?**

**У нас дагэтуль няма ніякага пагаднення з Расіяй у тым, што яна прыме наша (дакладней — іх) адпрацаванае паліва на перапрацоўку. Мажліва, мы загрузім паліва ў АЭС, а праз нейкія палітычныя акалічнасці Расія папросту такое пагадненне не падпіша.**

Прадстаўнікі Беларускай антыядзернай кампаніі па выніках абмеркавання дакладу Стратэгічнай экалагічнай ацэнкі праекта стратэгіі абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам (АЯП) Беларускай АЭС у шоку. Як вядома, ядзернае паліва выпрацоўвае свой рэсурс за тры-чатыры гады эксплуатацыі. Але мы дасюль не ведаем, што будзем рабіць з радыеактыўнымі адкідамі.

### «Мы ведаем, што мы нічога не ведаем»

У дакуменце наконт абыходжання з ядзерным палівам адзначаецца: «Распрацоўка праекта Стратэгіі ажыццяўляецца пры наяўнасці значных тэхнічных, эканамічных і іншых нявызначанасцяў, звязаных з выбарам аптымальных рашэнняў па тэхналагічных аспектах рэалізацыі сістэмы абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам Беларускай АЭС».

Што гэтая фармулёўка азначае насамрэч?

Прапанаваны для абмеркавання дакумент змяшчае тры варыянты абыходжання з адпрацаваным палівам. Два з іх прадугледжваюць адпраўку небяспечных адкідаў АЭС на «перапрацоўку» ў Расію. І, па словах сябра савета ГА «Экадом» Ірыны Сухій, асноўны варыянт — менавіта перапрацоўка адпрацаванага ядзернага паліва ў Расіі.

Але, па-першае, перад закладкай ядзернага паліва ў Беларускую АЭС у нас дагэтуль няма ніякага пагаднення з Расіяй у тым, што яна прыме наша (дакладней — іх) адпрацаванае паліва на перапрацоўку! Мажліва, мы загрузім паліва ў АЭС, а праз нейкія палітычныя акалічнасці Расія папросту такое пагадненне не падпіша. Ці зноў паставіць умову: альбо «інтэгруйцеся», альбо ваша радыяцыя будзе ў вас. Альбо выдумае яшчэ нейкую трасу, каб нашае паліва не прымаць. Што тады?

Па-другое, сама «перапрацоўка» ў Расіі праблематычная. Існуючыя расійскія ядзерныя сховішчы перапоўненыя. «На дадзены момант у Расіі няма магутнасцяў для перапрацоўкі беларускага паліва, яны з'явяцца ці то ў 2040-м годзе, ці то пазней», — адзначае Сухій.

Але ж БелАЭС мы, нібыта, плануем запусціць неўзабаве. «Мы пра гэта і кажам — няма бяспечнага, і галоўнае, рэальнага плана бяспечнага абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам, і безадказна ўвозіць яго, калі незразумела, што з ім рабіць потым», — зазначае эколаг.

Тры-чатыры гады да адпрацоўкі першай порцыі паліва — і куды мы гэта падзенем?

### Кошт АЭС

Нездарма экалагі ад пачатку будаўніцтва казалі: кошт АЭС насамрэч будзе ўдвая-ўтрая вышэйшы за саму АЭС. Таму што трэба збудаваць адпаведную інфраструктуру, могільнікі ядзерных адкідаў, і гэтак далей.

У дакуменце, які абмяркоўвалі экалагі з ядзершчыкамі, няма інфармацыі пра кошт перапрацоўкі адкідаў у Расіі, іх транспарціроўку, а таксама няма кошту захоўвання радыеактыўных адкідаў у Беларусі. На пытанне прадстаўнікоў грамадскасці пра гэта галоўны інжынер Беларускай атамнай станцыі Анатоль Бондар адказаў, што такія разлікі праводзіліся, але гэтыя лічбы агучваць нельга: «камерцыйная таямніца».

Ёсць уражанне, што ніякай «камерцыйнай таямніцы» тут няма. Калі не падпісана міжурадавае пагадненне паміж Расіяй і Беларуссю пра перапрацоўку адпрацаванага паліва, то ў нашых атамшчыкаў проста не можа быць канкрэтных лічбаў. Таму што іх не існуе ў прыродзе — да падпісання пагаднення. І ўсе спасылкі на «камерцыйную таямніцу» — не больш чым фантазіі.

Насамрэч, кажа Ірына Сухій, падчас абмеркавання казалі, што такія разлікі ёсць, зробленыя з дапамогай нейкай расійскай арганізацыі, але іх нікому не паказваюць. Але праблема ў іншым. Як адзначае эколаг, паводле беларускага заканадаўства, гэта не можа быць «камерцыйнай таямніцай», бо грамадству па экалагічна важных пытаннях павінны быць прадстаўлены не толькі тэхналагічныя аспекты, але і ў тым ліку і эканамічныя. «Немагчыма гэта разглядаць без эканамічнага аналізу. Адна з нашых рэкамендацый — стратэгія павінна быць дапоўненая эканамічнымі разлікамі», — зазначае Сухій.

А ўлічваючы загрузку расійскіх магутнасцяў па перапрацоўцы ядзерных адкідаў, нават самыя змрочныя лічбы можна будзе павялічыць у два-тры разы.

### Прамежкавае захоўванне

«Праз 4 гады будуць вынятыя адпрацаваныя стрыжні — так званыя ТВС, цеплавыдзяляльныя зборкі з ядзерным палівам. Іх павінны пагрузіць у рэзервуары, дзе яны будуць астуджацца. Везці на перапрацоўку ў Расію іх можна будзе недзе гадоў праз дзесяць. І вось — калі іх можна везці, то іх не будзе дзе перапрацоўваць! Магутнасцяў у Расіі няма — няма куды везці! Таму трэба сухое захоўванне, якое ўвогуле не было запланавана на пляцоўцы АЭС. Гэта значыць, трэба дадаткова распрацоўваць і будаваць «сухое» сховішча, дзе будзе назапашвацца адпрацаванае ядзернае паліва, каб потым, большай партыяй, яго накіраваць на перапрацоўку», — кажа Ірына Сухій.

Але справа ў тым, што ў праекце БелАЭС не было і няма планаў па стварэнні «сухога» сховішча адпрацаванага паліва. «Яшчэ калі быў праект АЭС, мы задавалі пытанні пра тое, дзе і як будуць захоўвацца адкіды, у тым ліку адпрацаванае ядзернае паліва? Тады нам казалі, што гэта «наступны этап». Але і цяпер гэтага няма. Нам цяпер кажуць пра нейкія пяць пляцовак, якія «разглядаюцца». Ці то на самай пляцоўцы АЭС, ці то дзе-небудзь яшчэ... Зноў жа — ніякай канкрэтыкі», — адзначае Сухій.

### Дзе будзе «Другі Чарнобыль»?

Нават калі мы разбярэмся з коштам на перапрацоўку адпрацаванага ядзернага паліва, нават калі мы дамовімся з Расіяй на «першачарговую» перапрацоўку, нават калі дамовімся па коштах, — тое, што «недаперапрацавалі», усё роўна будзе вяртацца ў Беларусь. І дзе мы будзем гэта захоўваць?

«Пяць пляцовак», пра якія казала Сухій, нібыта прадугледжваюць будаўніцтва сховішча для радыеактыўных адкідаў, якія будуць вяртацца з Расіі ў Беларусь. Але дзе гэта будзе канкрэтна?

«Мясцовыя жыхары пыталіся: «Дзе гэта будзе? Каля маёй вёскі? Каля другой вёскі?» Але ім было сказана: «Пляцоўкі ёсць, а дзе — па памяці не скажам», — распавядае эколаг.

Больш за тое, па словах Сухій, нідзе ў свеце не вырашана праблема доўгатэрміновага захоўвання радыеактыўных адкідаў. «Ёсць некалькі краін, якія перапрацоўваюць такое адпрацаванае паліва. Напрыклад, Расія і Францыя. Брытанія ў мінулым годзе адмовілася ад перапрацоўкі такіх адкідаў. Іншыя краіны ў прынцыпе не перапрацоўваюць, таму што гэта дорага. І ў большасці краін такія адкіды разглядаюцца не як адпрацаванае ядзернае паліва, а як уласна радыеактыўныя адкіды», — кажа яна.



«Усё, што цяпер ёсць, — гэта «часовае захоўванне» адкідаў АЭС з надзеяй, што ў будучыні знойдзецца тэхналогія доўгачасовага захоўвання. Часовыя сховішчы будуюцца максімум на 50 гадоў, і, як правіла, «часовае захоўванне», — гэта наземнае захоўванне пад наглядам. Таму што, калі глыбока закапаць радыеактыўныя адкіды — ты не можаш кантраляваць і рэгуляваць працэсы, якія там адбываюцца», — зазначае Сухій.

І немалаважны кошт пытання. У Швецыі, Фінляндыі, Бельгіі такія аб'екты каштуюць ад 6 да 9 мільярдаў еўра. З улікам магутнасці Беларускай АЭС і меркаванага тэрміну яе працы, нам на гэта спатрэбіцца 2–3 мільярды еўра.

### Бюракратыя

Сам працэс абмеркавання Стратэгічнай экалагічнай ацэнкі праекта стратэгіі абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам, адзначае Сухій, складаны для разумення. Бо гэта яшчэ — папяровы дакумент. «Самой стратэгіі па абыходжанні з адпрацаваным палівам яшчэ няма. Распрацоўка стратэгіі і Стратэгічная экалагічная ацэнка ідуць у паралелі. І, па ідэі, нашы заўвагі павінны быць улічаныя ў самой стратэгіі аб абыходжанні з адпрацаваным ядзерным палівам. Гэтага мы і чакаем», — кажа Сухій.

Калі з'явіцца сама стратэгія — яна будзе абмяркоўвацца яшчэ раз. Потым, калі будзе абраная пляцоўка для сховішча радыеактыўных адкідаў («ці часовага сховішча, ці пастаяннага, — карацей, чаго-небудзь яшчэ», — іранізуе Ірына Сухій), і яе трэба будзе абмеркаваць. Абавязковым этапам з'яўляюцца грамадскія слуханні па ацэнцы ўздзеяння такіх аб'ектаў на навакольнае асяроддзе (ОВОС, Оргуская канвенцыя). Па выніках гэтых слуханняў таксама могуць быць змены і дадаткі.

Гэта зойме немалы час. Але ж загрузку паліва ў БелАЭС і ўвод яе ў эксплуатацыю мы плануем ужо ў хуткім часе!

Таму экалагі патрабуюць, як мінімум, не запускаць АЭС — да таго часу, пакуль не будуць пераканаўча прадэманстраваныя надзейныя, эканамічна прымальныя, экалагічна бяспечныя і правераныя рашэнні ў пытаннях абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам.

Як бачна з абмеркавання Стратэгічнай экалагічнай ацэнкі праекта стратэгіі абыходжання з адпрацаваным ядзерным палівам, да гэтага вельмі далёка. Але ў такіх жыццёва небяспечных пытаннях нельга спадзявацца на «авось». Што, падаецца, якраз і робяць беларускія атамшчыкі.

# У пошуках «антысавецкага падполля»: КДБ і яго прыдумкі

Уладзімір ВАЛОДЗІН

**Гісторыкі і журналісты ў 1990-я сталі з захапленнем апісваць разнастайныя «антысавецкія» арганізацыі, якія існавалі цягам сямі папярэдніх дзесяцігоддзяў. Яно і не дзіва: з аднаго боку, з паслабленнем цэнзуры стала магчыма пісаць пра многае з таго, пра што раней можна было толькі перашэптвацца.**

Валянцін Цюрын, пра якога пойдзе размова, таксама прадстаўлены такім чынам, нібыта ён вырашыў стварыць падпольную арганізацыю і актыўна спрабаваў вербаваць яе чальцоў. Тым не меней, варта зазірнуць у дакументы, каб паспрабаваць разабрацца ў хітрасплёценнях справы. Паколькі я меў магчымасць азнаёміцца з нагляднай справай Цюрына, якая захоўваецца ў фондзе Пракуратуры СССР у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі, то хачу падзяліцца з чытачамі «Новага Часу» дэталямі справы і некаторымі назіраннямі.

### Правадыр «рабоча-сялянскай партыі»

Валянцін Нікіфаравіч Цюрын нарадзіўся ў 1927 годзе ў сяле Знаменка, цэнтры Знаменскага раёна Тамбоўскай вобласці. Паходзіў з сялян-серадлякоў, да 1957 года не быў судзімы, беспартыйны, рускі, жанаты, гадаваў дзіцё, жыў у Мінску па 4-м Загарадным завулку, 56а, кватэра 9. Біяграфія Цюрына пачыналася звычайна для сельскіх жыхароў яго пакалення — школа, праца ў калгасе, тэрміновая служба ў войску. Апошняя была не толькі цяжкай павіннасцю, але і сацыяльным ліфтам, магчымасцю назаўжды развітацца з калгасам. Не дзіва, што ў арміі Цюрын затрымаўся. Але ў 1953 годзе быў «за антысавецкія настроі і кепскую дысцыпліну выключаны з чальцоў УЛКСМ і звольнены з Савецкай Арміі ў запас» у званні гвардыі старшага тэхніка-лейтэнанта.




Як данеслі ўладальнікі доўгіх вушэй і не карацейшых языкоў, з 1948 года *«будучи враждебно настроенным по отношению к советскому строю и КПСС, подсудимый Тюрин среди военнослужащих и гражданского населения высказывал антисоветские настроения, извращал в этих высказываниях политику партии и правительства в колхозном строительстве, всячески охаивал советскую литературу и клеветал на КПСС, а также подслушивал и распространял антисоветские радиопередачи «Голос Америки». [...] Антисоветская деятельность подсудимого Тюрина этого периода подтверждается показаниями* [на судзе. — У.В.] *свидетелей Чернякова, Верник, Рудакова и др., которые утверждают, что они пытались разъяснить Тюрину его заблуждения и недопустимость распространяемой им антисоветской пропаганды, но он не слушал и продолжал высказывать антисоветские свои настроения»* (цытата з судовага прысуду).

Шчыра кажучы, мала верыцца, каб Цюрын мог адкрыта крытыкаваць уладу ў часы позняга сталінізму і пры гэтым застацца на свабодзе. Хутчэй за ўсё, ён дазволіў сабе крытычныя выказванні ў размовах са знаёмымі, якія (на той момант) на яго не данеслі. Можна дапусціць, што яго язык развязаўся пасля смерці Сталіна, і тут дзяржбяспека вырашыла пазбавіцца такога ненадзейнага вайскоўца.

З 1953 па 1957 год Цюрын жыў у Мінску, працаваў і вучыўся завочна ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Апошняе месца яго працы перад арыштам — майстар вытворчага навучання тэхнічнага вучылішча №2 г. Мінска. Трэба думаць, што пасля выключэння з камсамолу і звальнення з войска дзяржбяспека Цюрына не забыла і рэгулярна падсылала да яго сваіх інфарматараў.

**У 1957 годзе ў БССР па артыкуле 72 Крымінальнага кодэксу («антысавецкая прапаганда і агітацыя») было асуджана 60 чалавек, яшчэ 8 чалавек былі абвінавачаныя ў гэтым «злачынстве», але не асуджаныя, а прызнаныя вар'ятамі**

Тыя даносілі, што *«Тюрин систематически навязывая своим знакомым разговоры на политические темы, опошлял в этих разговорах условия жизни трудящихся в СССР, осуждал политику партии и советского правительства, возводил клевету на колхозное строительство»* (цытата з заключэння Пракуратуры БССР ад 13 студзеня 1959 года). У судовым прысудзе дадаткова паведамляецца, што Цюрын *«всячески охаивал жизнь советских людей, восхвалял жизнь людей в капиталистическом лагере [...] и в извращённом виде рассказывал о событиях в Венгрии»*.

«Антысавецкія» размовы Валянціна прыгадваюць у тым ліку па месцы працы (сярод навучэнцаў тэхнічнага вучылішча) і па месцы вучобы (сярод завочнікаў біялагічнага факультэта БДУ). На судзе пра такія размовы казалі сведкі Гуткіна, Вайсман, Новікаў, Грамыка, Вайцяховіч, Залескі ды іншыя.

Паводле версіі Пракуратуры БССР, увосень 1956 года і ў пачатку 1957 года Цюрын актыўізаваў сваю «варожую» дзейнасць і стаў прадпрымаць практычныя меры да стварэння арганізацыі, якая «ставіла за мэту барацьбу з камуністычнай партыяй і савецкай уладай». У гэты час ён напісаў статут і праграму «Усерасійскай рабоча-сялянскай партыі», а таксама артыкулы «Воззвание к народу», «Наши лозунги», «О необходимости социалистической революции».

Сведкі Дворкін і Дзягцяр паказалі, нібыта Цюрын схіляў іх да ўступлення ў названую «антысавецкую» арганізацыю, а таксама нібыта ён заяўляў, што дзеля дасягнення мэтаў арганізацыі *«они должны установить связь с разведкой иностранных государств и в своей практической деятельности применять террор, как метод борьбы с руководителями коммунистической партии и советского правительства»*. Паказанні пра спробы вярбоўкі таксама далі сведкі Курскі і Грамыка.

18 лютага 1957 года Валянцін Цюрын быў арыштаваны. Падчас вобшуку ў Цюрына былі знойдзены напісаныя ім статут, праграма і артыкулы. У праграме «Усерасійскай рабоча-сялянскай партыі» ён пісаў: *«...Задачей программы-минимума является свержение диктатуры партийной бюрократии,... уничтожение двойственности в управлении народным хозяйством путем устранения партийных органов от прямого руководства предприятиями... Народ не нищий, ...он не будет ждать свободы с Запада, он не будет ждать ее у Хрущева и Ко..., он должен взять власть в свои руки сам... Агрессивная группировка, вдохновляемая... партийной бюрократией КПСС, охотно идет на обострение международного положения, желая в пожаре войны убить двух зайцев и очиститься от кровавых преступлений против народа...» А вось іншая цытата: «Рабоче-крестьянская партия отдаёт себе полный отчёт в том, что в лице партийной бюрократии она видит более сильного и искусного врага, чем русский царизм...»*

Графічная экспертыза засведчыла, што праграма ды іншыя знойдзеныя пры





**Адзін абзац пракурорскага заключэння супярэчыць іншаму. Нашто б гэта Цюрын імкнуўся звязацца з замежнай выведкай, калі ён пісаў, што народ «не будзе чакаць свабоды з Захаду»? Нашто яму прапагандаваць тэрор, калі ён з абурэннем піша пра «крывавыя злачынствы супраць народа», то бок сталінскі тэрор?**




вобшуку рукапісы створаны Цюрыным.

Адзін абзац пракурорскага заключэння супярэчыць іншаму. Нашто б гэта Цюрын імкнуўся звязацца з замежнай выведкай, калі ён пісаў, што народ «не будзе чакаць свабоды з Захаду»? Нашто яму прапагандаваць тэрор, калі ён з абурэннем піша пра «крывавыя злачынствы супраць народа», то бок сталінскі тэрор? Хутчэй за ўсё, і імкненне да сувязі з выведкай, і «тэрарыстычныя намеры» былі прыпісаны Цюрыну следчымі з КДБ, якія жадалі атрымаць сабе паболей «зорачак» на пагоны.

Цікава, што перад арыштаваным паўставала ў тым ліку і перспектыва карнай псіхіятрыі. Цюрын быў накіраваны на амбулаторную судова-псіхіятрычную экспертызу, якая дала выснову, што ён у перыяд даследавання прыкмет псіхічнага захворвання не выяўляў.

У матэрыялах Пракуратуры СССР ёсць і цытата з паказанняў Цюрына: *«Я находился среди людей, от некоторых из которых я слышал жалобы на тяжесть жизни, видел различные недостатки на предприятиях и в учреждениях, задумываясь над тем, какой найти выход, чтобы облегчить материальное положение людей, я пришёл к выводу, что во всём этом виновата компартия и советское правительство. В связи с этим он решил создать организацию, для борьбы с КПСС и советским правительством».* Цяжка сказаць, як моцна правілі гэтыя паказанні следчы (ці сакратар суда), а потым пракурор. Але тое, што праўка мела месца, бачна хоць бы з апошняга сказа, дзе Цюрын раптам пачынае гаварыць пра сябе ў трэцяй асобе.

29 красавіка 1957 года Судовая Калегія па крымінальных справах Мінскага абласнога суда ў складзе старшыні Маставога, народных засядацеляў Собалева і Шураева, пры сакратары Іваньковай, з удзелам дзяржаўнага абвінаваўцы пракурора Зубар і абаронцы-адваката Бухаўца, разгледзела ў закрытым судовым пасяджэнні крымінальную справу Валянціна Нікіфаравіча Цюрына. Яго асудзілі па артыкулах 76 і 72 (частка «а») Крымінальнага кодэксу БССР («антысавецкая арганізацыя» і «антысавецкая агітацыя» адпаведна) на пазбаўленне свабоды тэрмінам 10 гадоў з паражэннем у правах на 5 год пасля адбыцця пакарання. Судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда БССР разгледзела справу 13 мая 1957 года па касацыйнай скарзе асуджанага і пакінула прысуд у сіле.

Валянцін Цюрын паехаў адбываць пакаранне ў Дубраўны «папраўча-працоўны» лагер (Мардовія) — на той час асноўны лагер для ўтрымання людзей, асуджаных па палітычных артыкулах.

## Вінаватым сябе не прызнаў

Пакуль што мы знаёміліся пераважна з версіяй следства, пракуратуры і суда. Але варта звярнуць увагу і на версію Цюрына.

У судовым пасяджэнні 29 красавіка 1957 года падсудны Цюрын вінаватым сябе не прызнаў ні па адным з пунктаў абвінавачання і патлумачыў, што *«антисоветской агитацией он не занимался, что такие разговоры вели сами свидетели, в частности свидетель Дворкин, он же натолкнул его составить антисоветские документы, обнаруженные при аресте и приобщённые к делу».*

Патрапіўшы ў зняволенне, ды яшчэ на такі працяглы тэрмін, Цюрын меў дастаткова часу, каб пісаць скаргі і ў іх выкладаць дэталі сваёй справы. Пасля шматлікіх безвыніковых лістоў у пракуратуру ды іншыя інстанцыі, ён вырашыў напісаць ліст на імя першага сакратара ЦК КПСС і старшыні Савета Міністраў СССР Мікіты Хрушчова. Ліст датаваны 29 кастрычніка 1961 года. Варта прывесці адтуль разгорнутую цытату:

*«В силу своей политической наивности, беспринципности и неискушенности, отсутствия жизненного опыта — я потерял веру в ЦК КПСС и задумал попытаться объединить морально-чистых и идейно-стойких коммунистов-ленинцев в подпольную антисоветскую организацию, под названием: «Революционная Рабоче-Крестьянская Партия». Но, как говорят, между желанием и действительностью — лежит дистанция огромного размера.*

*Будучи сам беспартийным, я обратился к некоторым членам КПСС с вопросом: способен ли нынешний ЦК КПСС под руководством Н. С. Хрущева удержать партию на ленинском пути? [...]*

*[Одни] коммунисты пытались открыто разбить мои идеологические заблуждения. Другие же, почуяв во мне антисоветский дух, а возможно и врага Советской власти, усугубили мои заблуждения, предложив мне на бумаге изложить свои мысли.*

*В течении нескольких часов я составил «Манифест», «Устав» и «Программу Революционной Рабоче-Крестьянской Партии» и передал всё это для ознакомления коммунисту Дворкину. Через несколько дней я был арестован и осуждён».*

Тут Цюрын можа хітраваць наконт таго, ці быў ён «камуністам-ленінцам», а можа і пісаць чыстую праўду. У той перыяд у СССР з'яўлялася шмат падпольных гурткоў менавіта «праўдзіва-ленінскай» накіраванасці. Ва ўмовах дастаткова жорсткай цэнзуры палітычнай літаратуры крытычна настроеныя жыхары СССР творча выкарыстоўвалі працы «класікаў», якія былі лёгка даступныя. Настолькі шмат у навакольнай рэчаіснасці не адпавядала прарочым візіям Маркса, Энгельса і Леніна, што іх працы не толькі прымушалі пазяхаць ад нуды няшчасных студэнтаў перад іспытам па марксізму-ленінізму, але і давалі глебу для крытычнага пераасэнсавання рэчаіснасці.

Цюрын прамым тэкстам піша: спроба стварэння арганізацыі — вынік дзеяння падасланага агента-правакатара Дворкіна, які пераканаў Цюрына напісаць статут і праграму. Прычым Пракуратура БССР у заключэнні ад 17 студзеня 1959 года пацвердзіла праўдзівасць яго словаў: Дворкін *«действительно после установления преступных действий Тюрина поставил об этом в известность органы госбезопасности, выполнив тем самым долг советского гражданина».*

## Хапун–1957

Чаму дзяржбяспека чакала больш за тры гады, каб справакаваць Цюрына? Чаму менавіта ў пачатку 1957 года трэба было стварыць «антысавецкую арганізацыю» з аднаго чалавека, каб потым яе паспяхова выкрыць? Бо 25 лютага 1956 года на ХХ з'ездзе КПСС Мікіта Хрушчоў зрабіў закрыты даклад «Пра культ асобы і яго наступствы». Затым цягам вясны даклад зачытваўся на разнастайных закрытых сходах па ўсім СССР, і яго праслухалі не толькі амаль усе камуністы, але і значная частка камсамольцаў і нават многія беспартыйныя.

Даклад выклікаў настолькі вялікае ўзрушэнне ў грамадстве, настолькі вялікае жаданне адкрыта абмяркоўваць праблемы нядаўняга мінулага і сённяшняга дня, што ўжо 5 красавіка 1956 года ЦК КПСС прыняў пастанову «Аб варожых вылазках на сходзе партыйнай арганізацыі Цеплатэхнічнай лабараторыі Акадэміі навук СССР па выніках ХХ з'езда КПСС». Пастанова была сігналам стрымаць адкрытае абмеркаванне бальшавіцкіх злачынстваў мінулага і наяўнага грамадска-палітычнага ладу ў СССР.

Далей здарыліся чэрвеньскія хваляванні рабочых у Познані (падаўленыя танкамі), польскі кастрычнік (некаторыя лібералізацыя, звязаная з прыходам да ўлады Уладзіслава Гамулкі) і венгерская рэвалюцыя (кастрычнік—лістапад 1956 года), брутальна падаўленая войскамі СССР. Усе гэтыя падзеі знайшлі водгук і ў СССР. Многія насельнікі краіны, у тым ліку і Валянцін Цюрын, крытыкавалі ўвод войскаў у Венгрыю. Адказам на крызіс сталі рэпрэсіі. 19 снежня 1956 года быў зацверджаны закрыты ліст ЦК КПСС да партыйных арганізацый «Аб узмацненні палітычнай работы партыйных арганізацый у масах і стрымванні вылазак антысавецкіх, варожых элементаў». Гэты ліст быў сігналам не толькі для ўласна партыйных органаў, але і для пракуратуры, судоў і дзяржбяспекі: «узмацніць барацьбу па стрымванні вылазак».

І барацьба сапраўды была ўзмоцненая. У 1957 годзе ў БССР па артыкуле 72 Крымінальнага кодэксу («антысавецкая прапаганда і агітацыя») было асуджана 60 чалавек, яшчэ 8 чалавек былі абвінавачаныя ў гэтым «злачынстве», але не асуджаныя, а прызнаныя вар'ятамі і накіраваныя на прымусовае псіхіятрычнае «лячэнне». Агулам за дзяржаўныя злачынствы ў БССР у 1957 годзе было асуджана 96 чалавек, яшчэ 13 чалавек сталі ахвярамі карнай псіхіятрыі. Для параўнання, у 1956 годзе па гэтых артыкулах асудзілі толькі 4 чалавекі, у 24 разы менш! У лік гэтых 96 асуджаных уключаны і ваенныя злачынцы (Другая сусветная вайна), але іх — меншасць, не больш за 20%.

У 1957 годзе былі арыштаваныя і асуджаныя Браніслаў Ржэўскі, браты Лявон і Міхась Белыя, удзельнікі «Партыі свабоды рускага народу» (Гомель) ды многія іншыя, менш вядомыя асобы.

## «Цвёрда ўстаў на шлях выпраўлення»

22 чэрвеня 1963 года ад імя Генеральнага пракурора СССР Рамана Рудэнкі і старшыні КДБ пры Савеце Міністраў СССР Уладзіміра Сямічаснага ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР быў накіраваны ліст, у якім пісалася: *«При изучении поведения заключённых в Дубравном ИТЛ выяснено, что Тюрин своё преступление осознал и осуждает его, активно участвует в проводимых администрацией политико-воспитательных мероприятиях, добросовестно относится к труду, твёрдо встал на путь исправления».* Улічваючы гэта, КДБ і Пракуратура СССР лічылі магчымым датэрмінова вызваліць Цюрына ў парадку памілавання.

Пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 27 жніўня 1963 года Цюрын быў памілаваны з вызваленнем ад далейшага адбыцця пакарання. Звестак пра далейшае жыццё героя гэтага артыкула няма.

Навошта зараз узгадваць гэтую справу? Каму сёння цікавы Валянцін Цюрын з яго «партыяй»? Справа Цюрына ілюструе метады працы КДБ часоў «адлігі», калі «контррэвалюцыйныя арганізацыі» часам інспіраваліся дзяржбяспекай. Яна таксама паказвае, як праходзілі ў Беларусі грамадскія дэбаты ў сярэдзіне 1950-х гадоў, і якія (дастаткова вузкія) рамкі ім былі зададзены. Таму і сышлі ўсе палітычныя размовы з партыйных сходаў 1956 года глыбока на прыватныя кухні аднасямейных кватэр. Дзяржаўны апарат СССР у гады «адлігі» стаў менш крывавым, але часы былі далёка не «вегетарыянскія», што паказвае хоць бы падаўленне танкамі і кулямётамі забастоўкі ў Новачаркаску ў 1962 годзе.

Наша грамадства ўсё яшчэ не прайшло дарогу дэсталінізацыі да канца, пра што яскрава сведчаць паводзіны сённяшняга міністра ўнутраных спраў РБ. Нам усё яшчэ трэба выбраць, якім тонам размаўляць пра часы Хрушчова, як устрымацца ад бездумоўнага ўхвалення «лібералізатара» і ад занадта эмацыйных праклёнаў на адрас «клятых камуністаў». І нам трэба вызначыцца, якое месца ў грамадскай памяці зоймуць і такія людзі, як Валянцін Цюрын. Ён далёка не «герой антыкамуністычнага супраціву», але і не «антысаветчык, які наслухаўся «Голасу Амерыкі» і быў гатовы прадаць радзіму заходнім шпіёнам». Як мы будзем памятаць «адлігу», як мы будзем даводзіць дэсталінізацыю да завяршэння — пытанні да ўсіх жыхароў Беларусі.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### САУДАЎСКАЯ АРАВІЯ. Ці выратуюць быкі саудзітаў?

У Саудаўскай Аравіі прыдумалі незвычайны план выратавання іміджу краіны, які вельмі пагоршыўся з-за гісторыі з забойствам журналіста Джамаля Хашогі. З'явілася ідэя імпартаваць з Іспаніі так званы «энсьера» — мясцовы атракцыён, сэнс якога ў тым, каб збегчы ад спецыяльна выпушчаных з загону быкоў. Арабы лічаць, што іспанская фішка можа прыцягнуць у краіну шмат турыстаў. Прычым, адзін з мясцовых шэйхаў ужо гатовы інвеставаць у праект. Гэта толькі адна ідэя па выратаванні іміджу дзяржавы. Падняць сімпатыі да Эль-Рыяду збіраюцца за кошт будаўніцтва музея васковых фігур, арганізацыі гульняў амерыканскай Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыі і запрашэння на пражыванне самых вядомых выканаўцаў рэпу. Між тым, большасць спецыялістаў скептычна ставяцца да ўсіх згаданых праектаў. Саудаўская Аравія мае пастаянны імідж клерыкальнай манархіі, які будзе цяжка змяніць.

**Паводле брытанскай прэсы**

### РАСІЯ. Прыбіральні як нацыянальны праект

Дзякуючы праблемам прыбіральняў у Літве расійскія «патрыёты» знайшлі новую тэму для гонару. Еўракамісія, як паведамлялася раней, мае намер аштрафаваць Літву за невыкананне патрабавання пра будаўніцтва каналізацыі ў населеных пунктах, дзе жыве больш за 2000 чалавек. На гэта краіне трэба 100 мільёнаў еўра, а дзе іх узяць — невядома. І незразумела, ці варта ўвогуле фінансаваць такую праграму, паколькі літоўцы актыўна збягаюць з сельскай мясцовасці і малых гарадоў (у 2018 годзе ў Літве было 75 населеных пунктаў, у якіх пражывала больш за 2000 жыхароў, сёлета іх застанецца 66). Між тым, у Расіі сітуацыя з прыбіральнямі, як не дзіўна, някепская. На 2013 год 67,6% хатніх гаспадарак у краіне мелі цэнтральную каналізацыю. Аналагічны ўзровень, паводле дадзеных Еўрастата, дасягнуты ў Італіі (69% насельніцтва), Партугаліі (70%) і Чэхіі (76%). Аднак, як высвятляецца, радавацца рана. На думку патрыётаў, праблема прыбіральняў з часам стане вельмі важнай, паколькі іх адсутнасць будзе нівеляваць поспехі краіны ў іншых сферах, напрыклад, у космасе. Таму Пуціна нават заклікаюць запусціць федэральны праект пад назвай «Цёплая прыбіральня».

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРГ. Футбол трэба забараніць?

У Германіі незвычайныя дэбаты вакол прапановы забароны футболу. З такой ініцыятывай выступіў вядомы нямецкі рэп-музыка Сэмі Дэлюкс. Прычына для забароны гучыць вельмі экстравагантна. Аказваецца, гульня з мячом спрыяе росту ў грамадстве расізму і сацыяльнай палярызацыі. Аўтар праекта наступным чынам тлумачыць сваю думку: «Футбольны заўзятар ніколі не будзе ўспрымаць заўзятара іншага клуба як роўнага. Паводле такой жа логікі будуецца светапогляд расіста». Калі верыць музыку, папулярнасць футбола ў Германіі з'яўляецца галоўнай прычынай росту папулярнасці правых папулістаў. Акрамя таго, у футбола ёсць нейкая індульгенцыя. Калі на нейкім матчы адбудзецца бойка паміж фанатамі, нікому ў галаву не прыйдзе патрабаваць забароны футболу. Калі падчас рэп-канцэртаў б'юцца слухачы, у прэсе абавязкова будуць гучаць заклікі забараніць рэп як «антыграмадскую музыку». Пакуль прапанова пра забарону футбола выклікала сярод немцаў выключна агрэсіўную рэакцыю. А самая папулярная ў краіне газета «Bild» наогул назвала ідэю музыкі праявай «прыдуркаватасці».

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Вакарчук прэзідэнтам не будзе

Лідар музычнага гурта «Океан Эльзи» Святаслаў Вакарчук 28 студзеня заявіў, што не будзе балатавацца на прэзідэнцкіх выбарах у 2019 годзе, хаця раней ён схіляўся да ўдзелу ў кампаніі. «Я неаднаразова казаў, што ўлада як такая, прэзідэнцкая пасада як такая мне не цікавыя. Мяне цікавяць сапраўдныя змены ў краіне», — заявіў музыка. Разам з тым ён адзначыў, што будзе працаваць «са сваёй камандай» для зменаў у краіне і перамогі праеўрапейскіх сіл. Такую пазіцыю можна разумець як заўгодна. У тым ліку як магчымы ўдзел Вакарчука ў кампаніі Парашэнкі. За кошт гэтага прэзідэнт, маўляў, можа нейтралізаваць фактар Уладзіміра Зяленскага — кандыдата-коміка, які разам з Юліяй Цімашэнка можа прайсці ў другі тур. Так ці інакш, на мінулым тыдні ўсіх нечакана абышоў досыць малавядомы кандыдат Ігар Шаўчэнка. Ён на Сусветным эканамічным форуме ў швейцарскім Давосе вызначыўся тым, што спрабаваў забраць некалькі капелюшоў, якія там бясплатна раздавалі арганізатары, і ўзяў замест аднаго адразу пяць. Прычым хадзіў за капелюшамі ён некалькі разоў, паралельна апісваючы свае ўчынкі ў Facebook. Такія жлобскія паводзіны зрабілі яму фантастычную рэкламу, аднак галасоў наўрад ці дададуць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



Фота www.novaator.err.ee

# Шматнацыяналізм праз дзесяць гадоў

Алег НОВІКАЎ

**Ужо дзесяць гадоў, як Балівія пачала будаваць новы дзяржаўны лад пад назвай «шматнацыяналізм» (Plurinacionalismo).**

«Уся ўлада індзейцам!» — прыкладна з такім лозунгам у 2005 годзе прэзідэнтам Балівіі стаў першы ў яе гісторыі грамадзянін індзейскага паходжання Эва Маралес. Увогуле, Балівія — вельмі адметная краіна Лацінскай Амерыкі, дзе амаль кожны новы рэжым ставіў нейкі эксцэнтрычны сацыяльна-палітычны эксперымент. Напрыклад, дыктатар Гарсія Меса. У 1970-я гады ён запрашаў з Еўропы экс-фашыстаў, каб тыя дапамаглі яму пабудаваць новы Рэйх. На выхадзе атрымалася крывавая лазня. «Няхай усе ходзяць з завяшчаннем у руцэ», — раіў суайчыннікам тагачасны кіраўнік балівійскага МУС.

Пры гэтым мясцовыя індзейцы, якія складалі да 60 працэнтаў насельніцтва, увесь час знаходзіліся ў асноўным на перыферыі палітычнага жыцця. Прыйсці ў вялікую палітыку іх натхніў Эва Маралес, які таксама шмат чаго абяцаў. Ён абяцаў у выпадку перамогі — не больш і не менш — аднавіць статус-кво, што існаваў тут да Калумба. Тобок вярнуць краіну індзейцам. Адпаведныя змены, зафіксаваныя ў папраўках у Канстытуцыю, былі прынятыя на рэферэндуме ў лютым 2009 года. Паводле новай версіі Асноўнага закона, краіна абвяшчалася «шматнацыянальнай дзяржавай».

На справе, аднак, вяртання ў дакалумбавы час не адбылося. Больш за тое, Балівія засталася ўнітарнай дэмакратычнай дзяржавай. Індзейцы, паводле Канстытуцыі 2009-га, атрымалі права ўстанаўліваць кантроль над сваімі спрадвечнымі тэрыторыямі. Адпаведна, гэта азначала прызнанне дзяржавай калектыўных правоў карэнных народаў, якія фармуюць свае інстытуты палітычнага кіравання. Аднак пры гэтым адміністрацыі аўтаномій павінны былі быць суб'ектам агульнай нацыянальнай структуры, якая прадстаўляе інтарэсы чырванаскурых.

Затое індзейцы шмат чаго дамагліся на культурным фронце. Уводзілася абавязковае вывучэнне моваў індзейскіх народнасцяў. Артыкул 5 абвяшчаў афіцыйнымі дзяржаўнымі мовамі іспанскую і 36 моваў усіх індзейскіх народнасцяў. Веданне як мінімум дзвюх дзяржаўных моваў (іспанскай і адной з індзейскіх) з'яўлялася абавязковай умовай для прэтэндэнтаў на дзяржаўную пасаду. Нарэшце, прапанавалася ўшаноўваць на дзяржаўным узроўні багіню земляробства і добрага ўраджаю старажытных індзейцаў.

Калі Канстытуцыя набыла моц, хапала прагнозаў наконт хуткага дэмантажу баліварскай дзяржаўнасці. У некаторых правінцыях на той час паўстаў рух за выхад з Балівіі. Аднак нічога жудаснага ў выніку не адбылося. Магчыма, праз традыцыйную этнічную раз'яднанасць, калі ўсе (у тым ліку індзейскія кланы) жылі пасобку. Акрамя таго, у муніцыпалітэтах, дзе большасць жыхароў складалі індзейцы, аўтаномія аказалася папросту незапатрабаванай. Паколькі цэнтр выступае медыятарам у канфліктах паміж рэгіянальнай адміністрацыяй і індзейскай аўтаноміяй, праблема дысбалансу ўлады больш-менш вырашаецца. Так ці інакш, праз дзесяць гадоў можна падвесці галоўныя вынікі праекту.

**Большасць экспертаў пагаджаецца, што Канстытуцыя 2009 года дапамагла зрабіць індзейскае самакіраванне больш эфектыўным. Як вынік, узровень жыцця мясцовых жыхароў стаў вышэйшым. Сярэдні рост ВУП Балівіі складае каля 5%**

Большасць экспертаў пагаджаецца, што Канстытуцыя 2009 года дапамагла зрабіць індзейскае самакіраванне больш эфектыўным. Як вынік, узровень жыцця мясцовых жыхароў стаў вышэйшым. Гэта, у тым ліку, вынік добрых гаспадарчых паказнікаў. Апошнія 12 гадоў сярэдні рост ВУП Балівіі складае каля 5 працэнтаў.

Ёсць, аднак, і заўвагі. Эксперымент шматнацыялізму супярэчыць двум цэнтральным элементам стратэгіі ўрада і партыі MAS («Рух да сацыялізму»): пашырэнне мадэлі эканамічнага развіцця, заснаванай на здабычы неаднаўляльных прыродных рэсурсаў, і намаганне захаваць кантроль за максімальна шырокай палітычнай прасторай, уключаючы тэрыторыі карэнных народаў. Таму на практыцы законы вельмі часта супярэчаць адзін аднаму. Канстытуцыя і прававыя акты адначасова падтрымліваюць аўтаномію карэнных народаў і ў той жа час — абмяжоўваюць яе. Песімісты лічаць, што позна ці рана гэта супярэчнасць стане бомбай пад «шматнацыяналізмам».

Аднак, магчыма, усё адбудзецца значна раней. Калі казаць пра перспектывы балівійскага «шматнацыяналізму», нельга не ўзгадаць, што ён быў абвешчаны ў часы так званага «левага павароту ў Лацінскай Амерыцы». Дзесяць гадоў таму большасць адміністрацый на кантыненце кантралявалі левыя партыі, якія шукалі альтэрнатыву старым мадэлям. Сёння ў рэгіёне назіраецца адваротны рух, калі ва ўрадавыя офісы прыходзяць правыя палітыкі. Прычым, правыя вельмі рэакцыйнага калібру, якія руйнуюць усю левую спадчыну. Таму варта задацца пытаннем: ці не паўторыць Балівія шлях Бразіліі, Аргенціны, Чылі? Ці захаваецца шматнацыяналізм у выпадку змены ўлады?

Адказ, напэўна, залежыць ад хуткіх прэзідэнцкіх выбараў, на якіх Маралес дзяжурна збіраецца перааабрацца. У прынцыпе, пэўная фрустрацыя ў лагеры дзейнага кіраўніка дзяржавы прысутнічае. У тым ліку таму, што ён нядаўна падкарэктаваў Асноўны закон, каб атрымаць магчымасць зноў стаць кандыдатам. З іншага боку, у Маралеса ёсць адданы электарат — індзейцы, для якіх альтэрнатывы «шматнацыяналізму» не існуе.

# «Хочаш жыць тут — стань казахам!»

Алег НОВІКАЎ

**У наступным годзе спаўняецца 95 гадоў абвяшчэння Казахскай АССР, якая з часам стала падмуркам незалежнай дзяржавы. Напярэдадні юбілею ў краіне гучаць заклікі цалкам разарваць з савецкай спадчынай.**



Фота www.meduza.io

Прычым, такія галасы гучаць на дастаткова высокім узроўні. Дэпутат парламенту ад партыі «Ак жол» Азат Перушаеў заклікаў змяніць назву краіны. Паводле Перуашаева, «згодна з досведам многіх краін, трэба называць рэспубліку па назве народа, які яе стварыў», і неабходна аднавіць гістарычную справядлівасць. «Афіцыйная назва “Рэспубліка Казахстан”, мабыць, недастаткова падкрэслівае гэты факт», — мяркуе дэпутат.

Па сутнасці, гутарка ідзе пра адмову ад канцэпцыі постсавецкай казахскай дзяржаўнасці, паводле якой ёсць казахі як этнас, а ёсць казахстанцы — усе грамадзяне дадзенай дзяржавы. Цяпер ідэалагічны каркас прапануецца змяніць. «Атрымліваецца, хочаш жыць тут — значыць, будзь казахам. Думаю, менавіта такі фокус збіраюцца наладзіць», — каментуе ініцыятыву парламентарыя адзін з мясцовых рускамоўных журналістаў.

Увогуле, Перушаеў трапіў у парламент па спісах партыі, што пазіцыянуе сябе як «апазіцыя» да курсу ўлады. Аднак гэта хутчэй, наадварот, гаворыць пра тое, што ён чалавек сістэмы. Усе існуючыя ў краіне зарэгістраваныя партыі, у тым ліку «Ак жол», — па сутнасці сімулякры, якія павінны выконваць дэкаратыўныя функцыі. Усе важныя заявы ўсе дэпутаты і партыйныя бонзы загадзя павінны ўзгадняць у адміністрацыі Елбасы.

Такім чынам, за Перушаевым стаць адміністрацыя Назарбаева. Адзінае пытанне: нашто ёй такі радыкальны крок? Дапускаюць шмат версій. Зандаж настрояў, пасланне нейкаму адрасату, спроба адцягнуць увагу электарату ад нейкай актуальнай праблемы. А магчыма, мы сталі сведкамі пачатку павароту краіны ў бок разводу з Масквой. Магчыма, у асяроддзі казахаў сапраўды канчаткова замацавалася думка пра непазбежнасць эвакуацыі з зоны рускамоўнага свету.

Такую думку падзяляе шмат назіральнікаў. Хаця руская мова дасюль пануе ў грамадскай сферы, ёсць прагноз — ужо для наступнага пакалення казахаў пераход на лацінку зробіць рускую мову чужой. Тым больш, што ў краіне даўно ідзе працэс татальнай дэрусіфікацыі і дэкамунізацыі тапанімікі — перайменавання абласцей, гарадоў, вёсак, вуліц і плошчаў.

Пакуль афіцыёз і вертыкаль ігнаруюць пражэкт Перушаева. Акумулятарам яго фантазій сталі рознага кшталту арыгіналы. Яны прапануюць памяняць не толькі назву краіны, аднак і дзеючую афіцыйную сімволіку — павесіць на сцяг краіны выяву паўмесяца, каб не адставаць ад іншых цюркскіх і мусульманскіх краін. Усходне-казахстанскі філіял усё той жа партыі «Ак жол» накіраваў губернатару ліст з прапановай перайменаваць абласны цэнтра Усць-Каменагорск у Кабанбай-батыр.

Таму не выключаецца, што ўлада намагаецца за кошт Перушаева стварыць лагер лаяльных да яе нацыяналістаў, якіх можа выкарыстаць у перспектыве. Такая перспектыва можа выглядаць як геапалітычная пераарыентацыя казахскай эліты на Кітай. Гэта справа не самая лёгкая, паколькі патрыёты не прабачылі Назарбаеву распродаж казахскіх земляў Кітаю. Паводле афіцыйных дадзеных, у перыяд з 1997 па 2003 гады Казахстан перадаў Кітаю 407 квадратных кіламетраў тэрыторыі. А паводле неафіцыйных дадзеных — не менш за 100 тысяч квадратных кіламетраў.

Яшчэ адна версія — у свядомасць насельніцтва за кошт кульбітаў ад Перушаева закладваецца думка, што адзіным гарантам міжнацыянальнай і палітычнай стабільнасці з'яўляецца клан Назарбаевых. Дарэчы, шмат хто ўзгадвае падзеі на Новы год у Карагандзе. Там падчас бойкі ў армянскай кавярні загінуў мясцовы жыхар, што справакавала ледзь не каўказскія пагромы. Урадавыя медыя, каментуючы інцыдэнт, паставілі аўдыторыю перад дылемай: або жудасныя нацыяналісты, або існуючая сістэма, якая не ідэальная, аднак гарантуе мір.

Адпаведна, у соцыуме ствараецца зручны эмацыйны фон для нейкай буйной дзяржаўнай акцыі. Лічыцца, што такой акцыяй могуць стаць пазачарговыя выбары прэзідэнта. Пераможцам на іх будзе дачка гаранта Дарыга Назарбаева (яна, дарэчы, публічна крытыкуе ідэю адмовы ад рускай мовы). Дарыга, у сваю чаргу, павінна стаць «рэгентам» унукаў Назарбаева, адзін з якіх з часам атрымае прэзідэнцкую пасаду.

Так гэта ці не — цяжка сказаць. Між тым, каментуючы апісаны сцэнар, прэса ўзгадвае планы Януковіча застацца прэзідэнтам Украіны, які палохаў грамадства пагрозай з боку нацыяналістаў. Чым скончылася для Януковіча тая камбінацыя, ведае кожны.



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Нік Клег



Дэпутат брытанскага парламента, адзін з лідараў апазіцыйнай партыі ліберал-дэмакратаў (трэцяя паводле ўплыву палітычная сіла ў краіне), узначаліў паход грамадскасці супраць сацыяльных сетак.

Гэтаму папярэднічала жудасная трагедыя. У мінулым годзе 14-гадовая школьніца здзейсніла самагубства пад уплывам інфармацыі, змешчанай у Instagram. 27 студзеня газета «The Sunday Times» апублікавала інтэрв'ю з бацькам нябожчыцы, які заявіў, што менавіта сацсеткі падштурхнулі яго дачку да суіцыду. Пасля гібелі дачкі ён стаў вывучаць яе акаўнты ў розных сацыяльных сетках і выявіў, што тая праглядала шмат старонак, запісаў і малюнкаў, прысвечаных самагубствам. «Няма сумневаў, што Instagram аказаў свой уплыў на выбар Молі (імя дзяўчынкі)», — сказаў бацька, і гэтым справакаваў буйны скандал.

Міністр аховы здароўя Вялікабрытаніі ўжо заявіў, што ўлады гатовыя прыняць новы закон, каб прымусіць сацсеткі кантраляваць кантэнт наконт прапаганды суіцыду. Міністр таксама накіраваў лісты з папярэджаннямі Twitter, Snapchat, Pinterest, Apple, Google і Facebook. Некалькі сацсетак аператыўна адрэагавалі на сітуацыю. Так, у Instagram паведамілі, што ўжо пачалі пераглядаць сваю палітыку.

Аднак Клегу і яго прыхільнікам гэтага мала. Палітык хоча, каб улады на месцах узялі пад поўны кантроль той жа Facebook. Акрамя таго, урад павінен прымусіць уладальнікаў сацсетак плаціць падаткі ў краінах, грамадзяне якіх імі карыстаюцца. На цяперашні момант той жа Facebook у асноўным плаціць падатак толькі ў ЗША, дзе знаходзіцца офіс кампаніі. Калі Клег даможацца рэформы, у гісторыі інтэрнэту пачнецца новая эра.

### Міхаіл Саакашвілі



Экс-прэзідэнт Грузіі, здаецца, вырашыў вярнуць сабе ўладу ў краіне, абапіраючыся на досвед Хуана Гуайда, самаабвешчанага прэзідэнта Венесуэлы. Як і Гуайда, Саакашвілі вырашыў рабіць стаўку на дыяспару на Захадзе.

На сустрэчы ў Філадэльфіі былы кіраўнік Грузіі заклікаў суайчыннікаў, якія жывуць у ЕС і ў Злучаных Штатах, забыцца пра наладжаны за мяжой побыт, аб'ядначца па прыкладзе венесуэльцаў, разам вярнуцца дадому і вярнуць яму ўладу ў краіне. Саакашвілі паведаміў, што знаёмы з многімі лідарамі венесуэльскай апазіцыі, якія «апошнія гады нястомна працавалі ў многіх краінах, каб змяніць рэжым на радзіме. І гэты досвед трэба выкарыстоўваць».

Як будзе рэалізоўвацца гэтая схема ў Грузіі, да канца не зразумела. У адрозненне ад венесуэльскай дыяспары, грузінская міграцыя не мае моцнага лобі на Захадзе і наўрад ці здольная прыцягнуць увагу Белага Дома да сітуацыі на радзіме, дзе, нягледзячы на супярэчнасці, па-ранейшаму дамінуе партыя «Грузінская мара».

Зрэшты, магчыма, пайсці па слядах Хуана Гуайда Саакашвілі вырашыў не ад добрага жыцця. Партыя прыхільнікаў экс-прэзідэнта ў Грузіі «Нацыянальны рух» не так даўно раскалолася. Так ці інакш, у Тбілісі «венесуэльскі сцэнар» Саакашвілі пакуль не ўспрынялі сур'ёзна. Відавочна, што тыя, хто ўладкаваўся за мяжой, наўрад ці ўсё кінуць і вернуцца назад, каб змагацца за змену ўлады, што спалучана з агульнавядомымі рызыкамі.

### Луіджы дзі Маё



Лідар італьянскага левапапулісцкага «Руху пяці зорак», які ўваходзіць у склад цяперашняга ўраду, гальванізаваў італьянска-французскія спрэчкі наконт міграцыі скандальнай прапановай.

Італьянец лічыць неабходным увесці санкцыі супраць еўрапейскіх краінаў, якія ў свой час праводзілі каланіяльную палітыку на Чорным кантыненце. Менавіта каланіяльная спадчына, на думку Луіджы дзі Маё, выклікала цяперашні міграцыйны крызіс. «Францыя ніколі не спыняла каланізацыю дзясяткаў афрыканскіх дзяржаў. Еўрасаюз павінен накласці санкцыі на Францыю і ўсе іншыя падобныя да Францыі краіны, якія збядняюць Афрыку і прымушаюць гэтых людзей з'язджаць. Афрыканцы павінны заставацца ў Афрыцы, а не на дне Міжземнага мора», — лічыць Луіджы дзі Маё.

Еўрапейскія чыноўнікі пакуль не ведаюць, як рэагаваць на незвычайную ідэю. У тым ліку таму, што Італія ў свой час таксама праводзіла ў Афрыцы агрэсіўную каланіяльную палітыку і, паводле такой логікі, таксама павінна апынуцца пад санкцыямі.

# «Нацыянальная культура народу

Лявон ЮРЭВІЧ

**Рыхтуючы першае на Бацькаўшчыне ды самае поўнае наогул на сёння выданне твораў эміграцыйнага пісьменніка, укладальнік цешыцца, што можа дадаць штосьці новае да таямніцы, імя якой — Уладзімір Дудзіцкі.**

У такой парадаксальнай сітуацыі, зрэшты, вінаватыя не жорсткі капіталістычны свет і не абыякавасць грамадства, а сам наш герой — enfant terrible беларускай творчай (і палітычнай) эміграцыі.

Нарадзіўся Уладзімір Гуцька — такое было яго сапраўднае прозвішча — 8 студзеня 1911 года (23 снежня 1910 года па старым стылі) у вёсцы Дудзічы былога Ігуменскага павету (сёння Пухавіцкі раён). Сям'я была немалая: чатыры сыны і чатыры дачкі. Бацька памёр, калі Уладзіміру было толькі два месяцы, гадаваўся ён пры айчыме. Навучанне Дудзіцкі



Уладзімір Дудзіцкі

пачаў у мясцовай чатырохгадовай школе, працягнуў у мінскай сямігодцы. Тут ён і пачаў пісаць свае вершы, якія змяшчаліся ў насценнай газеце. Першы верш называўся «Светач».

Зацікаўленне літаратурай прывяло Уладзіміра Дудзіцкага ў літаратурны гурток пры Мінскім клубе чыгуначнікаў, дзе праводзіліся заняткі, выдаваўся на шклографе часопіс «Першыя крокі», ладзіліся вечарыны. Да маладых гурткоўцаў прыходзілі Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот, Валеры Маракоў, Тодар Кляшторны.

Па заканчэнні сямігодкі ў 1927 годзе Дудзіцкі паступіў у Беларускі педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага. Тут, у «Беларускім ліцэі», як часам называлі гэтую навучальную ўстанову, вучылася нямала пісьменнікаў першых паслярэвалюцыйных гадоў. Настаўнікі былі адпаведныя: сам Усевалад Ігнатоўскі, Язэп Лёсік, Якуб Колас. Апрача насценнай газеты выдаваўся літаратурны часопіс «Крыніца».

Тэхнікум быў адным з прыкметных цэнтраў беларускасці. Таму калі пачалося змаганне з «беларускім нацыянал-дэмакратызмам», паляцелі галовы і выкладчыкаў, і студэнтаў. Разам з Сяргеем Астрэйкам, Лукашом Калюгам, Сяргеем Русаковічам Дудзіцкі быў выключаны з навучальнай установы. Бацькі ўжо арыштаванага на той час Антона Адамовіча далі ім прытулак.

«Пасля доўгага і паўгалоднага бадзяння», як пазней згадваў Уладзімір Дудзіцкі, у 1929 годзе пры дапамозе Лукаша Калюгі і Уладзіміра Хадыкі ён уладкаваўся на працу стыль-рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь» і перакладчыкам у Навукова-тэхнічным выдавецтве. Адначасна ён вучыўся на літаратурна-лінгвістычным факультэце Вышэйшага педагагічнага інстытута.

Але ў ноч з 22 на 23 лютага 1933 года Уладзімір Дудзіцкі быў арыштаваны НКУС і асуджаны да трох гадоў лагераў. Падчас арышту знік і падрыхтаваны да публікацыі зборнік паэта «Песні і думы». Пакаранне адбываў у Новасібірску і Марыінску; у сваіх успамінах Дудзіцкі пазней апіша той час і людзей, з якімі сядзеў.

Па заканчэнні тэрміну ён быў сасланы на два гады ў Сярэднюю Азію, дзе і жыў да канца 1937 года ў Ташкенце, і адкуль быў датэрмінова вызвалены з прычыны захворвання на малярыю.

Па дарозе ў Беларусь Дудзіцкага абрабавалі — рэчы, невялікія грошы і, галоўнае, пашпарт. Таму на станцыі ў Мінску яго арыштавалі зноў. Па высвятленні мясцовы аддзел НКУС прапанаваў Дудзіцкаму цягам 24 гадзінаў пакінуць сталіцу і выехаць у Віцебск ці Барысаў. Ён абраў Віцебск, дзе нейкі час працаваў у газеце «Віцебскі пралетары», а потым да канца 1940 года выкладаў беларускую мову ў розных навучальных установах гораду — пакуль не быў звольнены, бо «не патрапіў забяспечыць партыйнасць у выкладанні мовы і літаратуры».

Дудзіцкі здолеў вярнуцца ў Мінск, дзе пры дапамозе Яўгена Калубовіча ўладкаваўся на працу ў часопіс «Савецкая школа». Праўда, ненадоўга, бо ўжо праз месяц яго звольнілі па загадзе наркома асветы як «ворага народу». Пасля доўгіх пошукаў працы нарэшце трапіў у Ветэрынарны тэхнікум у вёсцы Курасоўшчына. Там яго і заспела вайна.

У часе вайны Дудзіцкі быў вельмі актыўны: адзін з арганізатараў «Беларускай газеты», загадчык аддзелу культуры і асветы ў Мінску і Мінскай акрузе, школьны інспектар у Барысаве, рэдактар часопіса «Беларус на варце». У гэты ж час падрыхтаваў да друку новы зборнік паэзіі «Напярэймы жаданням» і зборнік прозы. Ніводны з іх свету не пабачыў.

Найбольш часу забірала праца ў Беларускім культурным згуртаванні, дзе яму дасталася пасада загадчыка аддзела прапаганды. Узначальваў Згуртаванне даўні знаёмы Дудзіцкага Яўген Калубовіч; у склад Цэнтральнага ўраду ўваходзілі паэтка Наталля Арсеннева, рэжысёр і акцёр Вячаслаў Селях, кампазітар Мікола Шчаглоў, знаўца музейнай справы Антон Шукелойць. Рэдактарам аднаўленага літаратурна-мастацкага часопіса «Узвышша» быў Юрка Віцьбіч.

У артыкуле, які так і называўся «Беларускае культурнае згуртаванне», Уладзімір Дудзіцкі пісаў (асаблівасці правапісу тут і далей захаваныя): *«Нацыянальная культура народу ёсьць крыніцай ягонае духовае моцы. Гэта той Прамэтэеў агонь, які дало нам само неба. Калі гэтая крыніца высыхае, калі гэты агонь гасьне, тады паралізуецца розум народу й перастае біцца ягонае сэрца. Згуба свае роднае культуры, замена яе чужой азначае сьмерць народу. Ён ужо тады ня ёсьць раўнапраўным сябрам у агульнай сям'і народаў і робіцца нявольнікам чужое культуры. А за культурнай няволяй як няўхільны вынік не наступае й няволя палітычная. Гісторыя ўсіх народаў сьвету навучае нас, што яны за найвышэйшы свой скарб уважалі родную культуру, і таму ня толькі рупіліся аб яе захаваньні й разьвіцьці, але і аб пашырэньні між іншых народаў. А з культураў асобных народаў складаецца культура чалавецтва. Народ, які ў гэтую агульную скарбніцу нічога свайго ня ўносіць, спатыкае толькі пагарду»*.



**Уладзімір Дудзіцкі. Каракас, 1949. На адвароце здымку надпіс: «Юрку Віцьбічу на ўспамін зь Венэцуэлы (Паганая, але няхай будзе — творчасьць суродзіча) Уладзімір Дудзіцкі»**

Дудзіцкі нямала паклаў высілкаў на беларусізацыю гораду: тэатру, дзе замяніў там усё кіраўніцтва, школаў, спрычыніўшыся да заснавання часопіса «Беларуская школа», што па пэўным часе мусіў замяніць савецкія падручнікі.

Ён належаў да тых, хто даволі хутка пазбавіўся ілюзіяў адносна палітыкі новай акупацыйнай улады. Пра гэта сведчаць і яго вершы, і ўдзел у адным з першых нелегальных пасяджэнняў у Мінску, на якім была прынятая пастанова аб стварэнні Беларускай незалежніцкай партыі. Але нянавісць да савецкай улады была мацнейшая. Да гэтага дадалася асабістая трагедыя: партызаны, не схіліўшы Дудзіцкага да супрацоўніцтва, забілі яго маці.

Чалавек, годна перацярпеўшы канцэнтрацыйны лагер, зламаўся.

Менавіта да часу акупацыі належаць успаміны сведкі, якія не толькі дадаюць новае пра асобу паэта, але, на нашу думку, дапамогуць раскрыць таямніцу знікнення Уладзіміра Дудзіцкага. Яніна Каханоўская прыгадвае:

***«Перачытала Вашую кнігу і пасмяялася трошкі. Вядома, Вы не маглі ведаць Дудзіцкага. А я яго вельмі добра ведала. Адкуль? У Менску працавалі разам, у Культурным згуртаванні пры Самапомачы. У Вас ён — такі чалавек, Віцьбіч рэкамендуе яго на Радыё. А гэта п'яніца і авантурнік. І мы гэта ведалі з Менску. Ён быў прыгожым мужчынам, добра рэпрэзэнтаваўся. І добры беларус, шчыры, адданы. Але маральна... Гэта хвароба бальшыні нашых людзей — п'янства. Але нас не паслухалі, сцягнулі яго. А вельмі хацеў паехаць туды Грыцук Аляксей з Канады»***.

Тым часам, напрыканцы вайны — мо праз сваю авантурнасць, а мо ад неспатоленай прагі надалей працягваць змаганне з Саветамі, — Уладзімір Дудзіцкі далучыўся да генерала Андрэя Уласава ў якасці прапагандыста стварэння беларускіх аддзелаў. Маніфест Уласава, абвешчаны ў Празе 14 лістапада 1944 года і надрукаваны ў газеце «Голос народа», быў падпісаны 37 сябрамі КОНР (Камітэт вызвалення народаў Расіі) і 12 кандыдатамі. Беларусаў сярод іх не было, але Дудзіцкаму, і так не надта папулярнаму сярод беларускага актыву, яшчэ доўга закідвалася тое супрацоўніцтва як здрада беларускай незалежніцкай ідэі.

Пасля вайны Уладзімір Дудзіцкі апынуўся ў Зальцбургу ва ўкраінскім лагеры DP (Displaced Persons Camp, лагер для перамешчаных асоб. — рэд.) з беларускай секцыяй. Паэт арганізаваў тут Беларускі нацыянальны камітэт літаральна праз дзесяць дзён пасля капітуляцыі Германіі, разам з Алесем Салаўём, Міколам Ганьком і Алесем Грыцуком наладзіў выданне часопіса «Пагоня» і газеты «З беларускага жыцця».

У лагеры DP Дудзіцкі быў параўнальна нядоўга, а пасля выехаў у Венесуэлу.

Новыя эмігранты прыязджалі ў тую краіну ў вірлівы час. У 1947 годзе была прынятая новая Канстытуцыя краіны, і першым прэзідэнтам, абраным паводле яе, стаў знаны празаік, паэт, асветнік Рамула Гальегас. У сярэдзіне лютага ўрад абвясціў, што запрашае да сябе на працу з Еўропы 20 000 эмігрантаў. Дэкларавалася, што яны атрымаюць права набываць зямлю, ім будуць дадзены тэхніка, банкаўскія пазыкі. Толькі ўжо 24 лістапада 1948 года ўрад Гальегаса быў скінуты вайскоўцамі, а прыход да ўлады вайсковай дыктатуры — хунты — не мог не адбіцца і на стаўленні да новапрыбылых, хоць па-ранейшаму краіна была зацікаўленая ў спецыялістах.

Знаходзілі свае месца ў новай краіне і беларусы. Уладзімір Дудзіцкі стварыў у сярэдзіне 1949 года першую, а мо і адзіную, тамтэйшую беларускую арганізацыю — Аб'яднанне беларусаў у Венесуэле (АБВ).

Знайшоў працу ў Міністэрстве будоўлі садоў і паркаў у якасці садоўніка, пачаў няблага зарабляць. Уладкаваўшыся сам, распачаў захады, каб дапамагчы выехаць з лагераў Ды-Пі Юрку Віцьбічу, Масею Сяднёву, Уладзіміру Клішэвічу: высылаў запрашэнні, афармляў дакументы, раіў, куды звярнуцца, каб прыспешыць ход справы. У лістах да сяброў ён імкнуўся перадаць нязвыклае і новае для яго, чалавека з досведам жыцця ў таталітарнай дзяржаве, адчуванне свабоднай краіны з усім станоўчым і адмоўным:

*«Кажная краіна мае свае асаблівасьці; звычкі, традыцыі, жыцьцёвы ўклад, безумоўна, ня маюць нічога супольнага з нашаю Бацькаўшчынаю, як і з Эўропаю наагул. Як і кажная краіна, яна мае свае й мінусы, і плюсы. Жыць можна, а галоўнае тое, што тут чалавек вольны, як птушка. Пачатак жа цяжкім ёсьць усюды, асабліва, калі чалавек прыяжджае бяз грошай ды ня мае ні знаёмых, ні блізкіх і мовы ня ведае. Заўсёды лепш разьлічваць на благое, чым на добрае.*

*Абавязку працы Вэнэцуэля, як і ўся Амэрыка, ня ведала й ня ведае. Рабі што хочаш і жыві як хочаш. Сацыяльны кантраст страшэнны: поруч з казачным багацьцем стаіць і нечуваная беднасьць добрае чвэрці мясцовага жыхарства. Аднак, гэта тая частка, што ня любіць працы й ня хоча працаваць або прапівае ў суботу ўсё тое, што зарабіць за тыдзень (грошы тут плоцяцца*

# ёсьць крыніцай ягонае духовае моцы»

*кожнага тыдня, а п'юць так, як нам ніколі й ня сьнілася). Аднак самы бедны чалавек ня ведае ні суму, ні цяжкіх (а мне думаецца, што наагул ніякіх) перажываньняў. Цяжка і, відаць, немагчыма зразумець гэтую зямлю таму, хто на ёй ня жыў і ніколі ня бачыў ейных людзей. Вельмі віратлівае жыцьцё; у ім няма часу на доўгі адпачынак і вялікія развагі. Сіла гарачага поўдня, сіла зямлі — найвялікшы валадар чалавека. Адным словам, раўнуючы да іншых краінаў Амэрыкі, Вэнэцуэля ўсё ж найбольш надаецца эмігранту. Бясспрэчна, Нью-Ёрк — цудоўны горад, але ён не для крычаўскага Лукаша й не для старобінскае Тэклі... Там патрэбныя вялікія тысячы. І калі ў першым выпадку чалавек можа быць сам сабе гаспадаром, дык у другім — вечным парабкам... І яшчэ заўважу. Сучасны — першы дэмакратычны й сапраўды народны, нацыянальны — урад вельмі дбае пра эміграцыю, глядзячы на яе, як на будучых сваіх грамадзянаў. Краіна зь вялікімі пэрспэктывамі. Між іншым, на прэзыдэнта абраны выдатны пісьменьнік Вэнэцуэлі і, безумоўна, усяе Амэрыкі — Галлегос Ромуло. Клічу да Вэнэцуэлі».*

Але ніхто не прыехаў. Дудзіцкі пачуваўся больш самотным, як Алесь Салавей у Аўстраліі:

*«Мае адносіны да ўсіх сяброў выказваюцца ў вершы:*
*Віецца шлях гразкою каляінай,*
*а часам камяністасьцю ўстае.*
*Я клічу вас, равесьнікі мае,*
*з далёкіх стэпаў песьняй сакалінай...*

*Клікаў я Масея Сяднёва й іншых; не прыехалі й ня пішуць. Такой бяды... Прыкра, што сорам і абавязак адчуваюцца слабей, як голад і холад. Гэта наагул і між іншым. Кожнаму жадаю толькі дабра. Уласная няўдача ніколі не хвалявала мяне так моцна, як моцна цешыць посьпех найлепшага таварыша».*

Затое — у адрозненне ад таго ж Салаўя — шмат пісаў: *«Падрыхтаваў да друку два зборнікі вершаў — «Хвалі» і «Да блізкіх і далёкіх», зборнік апавяданьняў «Купальскія росы» (зборнікамі, пэўна ж, называю ўмоўна, бо ўсё роўна нідзе ня выдам). Скончыў пісаць аповесьць «Голас крыві» — 8 друкаваных аркушаў. Працую над дзьвюма вялікімі паэмамі».*

Рукапісы згаданых зборнікаў зніклі; ацалела тая частка спадчыны, што дасылалася аўтарам у перыядычныя выданні — спачатку ў Германію, пазней у ЗША.

Акурат у гэты час Дудзіцкі знік. Лісты перасталі прыходзіць, дасланыя яму заставаліся без адказу. Юрка Віцьбіч пачаў шукаць яго праз агульных знаёмых, што выехалі ў Венесуэлу. Як потым тлумачыў сам паэт, *«благога нічога не сталася, але й добрым не магу пахваліцца. Першага кастрычніка леташняга году давялося страціць працу, усё здабытае, пакінуць кватэру і выехаць у далёкую, глухую й сьпякотную вобласьць краю».*

А ў лісце да Антона Адамовіча той самы Юрка Віцьбіч напісаў неўзабаве: *«Адшукаўся след Тарасаў. Нарэшце атрымаў ліст ад Дудзіцкага. Ачольвае нейкі дзяржаўны навукова-дасьледчы інстытут, у чым няма падставы сумнявацца, бо ўсё гэтае разам з тытулам — прафэсар — пададзена на канвэрце. Увогуле зноў трапіў на каня й, дай Божа, каб новая Елена Прыгожая яго ня выбіла зь сядла. На мой асабісты погляд, ён — найлепшы з нашых паэтаў на чужыне».*

Так, лісты ад Дудзіцкага пачалі прыходзіць у ЗША ў адмысловых капэртах, на якіх было выдрукавана: Dr. Wladimir R. Hicky, Unidad Agricola de Turen — Instituto Agrario Nacional, Centro de Experimentacion y Propagacion, Estado Portugesa, Venezuela. У тых лістах ён, пад чарговым новым прозвішчам, пісаў:

*«Коратка аб профілі мае службы й працы. У Вэнэцуэлі, вельмі багатай краіне, сельская гаспадарка была ў вялікім заняпадзе — у стане поўнага прымітывізму. У апошнія гады, амэрыканізуючы шпаркімі крокамі край, урад зьвярнуў асаблівую ўвагу на гэтую галіну, каб падняць яе да ўзроўню перадавых краінаў. У гэтым пляне пачаліся інтэнсіўныя распрацоўкі лясных масіваў і заснаваньне вялікіх сельскагаспадарчых калёній. Бальшыня каляністаў — эмігранты нашага тыпу й «шукальнікі шчасьця» пладовыя. Экспэрымэнтальны цэнтар мае 100 гектараў зямлі, першарадны дом з адпаведнымі лябараторыямі, мэтэаралягічныя станцыі, машыны, апараты й г. д. Цэнтар зьяўляецца месцам тэхнічных і навуковых кансультацыяў у шырокім пляне агранамічных навук, выдае свой навуковы часапіс, пэрыядычныя запіскі, бюлетэні й г. д. Маюць*




**Вокладка мінскага выдання твораў Уладзіміра Дудзіцкага («Лімарыус», 2010)**



Прыдзі

З блакітнай вышыні прыдзі, мама, хутчэй
на землі нашыя, збаўленьня дух раскуты,
зьнімі з грудзей людзкіх скрыжаваныя путы,
спакой вярні душы і бляск былы вачэй.

Мы — не толькі ў цяжкім сьне — у цішыні начэй —
п'ем сінь нябёс Тваіх — ня келіх зямной атруты...
І разгінаецца касьцяк сьпіны прыгнуты,
і песні сочацца выразьней і званчэй...

Ды сон, плыўкі міраж, — нязьдзейсны плод вязьніцы:
мігне, бы стрэл пругкі агністай бліскавіцы,
і ў мур глухі спадзе каля жалезных крат.

Зьнікае ўпоруч зь ім спадзеў туманны збаўленьня:
красу вясны ціхой настойліва на спад
вядзе няўмольная, нязбыўная сіла тленьня...

Уладзімір Дудзіцкі

**Аўтографы твораў Уладзіміра Дудзіцкага «Прыдзі»**

*з усяго сьвету. Цэнтральнай калёніяй у сыстэме Міністэрства земляробства зьяўляецца гэтак званая «Unidad Agricola de Turen». Слова «unidad» абазначае «аб'яднаньне». Калёнія абымае ўжо каля ста тысяч гектараў. Кожны каляніст мае ад 40 да 100 гектараў зямлі. Сельскагаспадарчыя машыны, будоўля й зямля даюцца на выплату. Даюць адпаведныя грашовыя крэдыты. Усё пераходзіць ва ўласнасьць пасьля поўнае выплаты пазычанага дзяржавай. І вось на землях гэтае галоўнае вялізарнае калёніі знаходзіцца Экспэрымэнтальны цэнтар сельскагаспадарчых культур краю й культур трапічных наагул, а таксама й асобных культур Эўропы з мэтай іхняе акліматызацыі. Асаблівая ўвага зварачаецца на культуры месца й рэфэраты на розныя тэмы. Шэфам гэтага Цэнтру працую ад студзеня месяца 1953 году, — пасьля таго, як здаў экстэрнам экзамены й абараніў дыплём доктара сельскагаспадарчых навук. Пазьней дашлю што-небудзь з выдадзеных мною часапісаў на гішпанскай мове».*

Напружаная праца плюс знаёмствы і авантурны характар неўзабаве прынеслі плён. Як ацаніў сам Дудзіцкі, «посьпехі маю неблагія». Імя сталася вядомым, а гэта, у сваю чаргу, прывяло *«да інтрыгаў і розных паклёпаў ня з боку вэнэцуэльцаў, а з боку цэлай кучы ўсякіх «князёў», «баронаў» ды іншай расійскай трухлі».*

У гэты час і атрымаў Уладзімір Дудзіцкі прапанову на пераезд у Германію — узначаліць Радыё «Вызваленне». Толькі абмеркаванне яго кандыдатуры адбывалася на значна вышэйшым узроўні, як тое думалася некаторым суайчыннікам:

*«Дарагі Мікола!*

*Ня ведаю, ці яшчэ актуальная справа кіраўніцтва Радыё «Вызваленьне» беларускага аддзелу, але перасылаю гэта для Твайго ведама й эвэнтуальнага выкарыстаньня выпіску зь ліста сп. Уладзімера Дудзіцкага. У чэрвені месяцы пішучы яму ліст я напісаў, што існуе плян пашырэньня часу беларускіх перадачаў у радыё «Вызваленьне», і магчыма будуць патрэбныя супрацоўнікі, і ці ён не згадзіўся б у выпадку патрэбы на пераезд на працу ў радыё. Тут пасылаю ягоны адказ на маё пытаньне.*

*Мой асабісты пагляд такі, што ён на працу ў радыё вельмі надаецца — зь яго моцны пісака, піша добра вершам і прозаю, знае добра падсавецкія ўмовы й псыхіку «савецкага» грамадзяніна, быў у сваю пару ў ссылцы. Неблагі, відаць, арганізатар — і ў Вэнэцуэлі патрапіў стаць на ногі. Адзіны палітычны стары грэх — у часе апошняй вайны раз нехта яго намовіў падпісаць Уласаву адозвы да беларусаў. Але ён сам ня ёсьць русафілам, ані нейкім «фэдэралістам», наадварот, уся творчасьць ягоная выразна патрыятычна-нацыяналістычная, і ягоны «ўласаўскі» грашок запраўды на мой пагляд толькі прыпадковая рэч у выніку склаўшыся навокал яго тады абставінаў.*

*Ці варта яго прапанаваць на становішча нават і кіраўніка аддзелу — гэта ўжо да Тваёй дэцызіі, але калі нават не ўважаў за магчымае выкарыстаць яго для гэтага становішча, дык раджу ўсё ж з свайго боку зьвярнуцца да яго ў справе супрацоўніцтва з радыям і з свайго боку запытацца пра ягоную згоду на пераезд. Калі б нават да такога пераезду не дайшло — такая пастаноўка справы й зварот Твой прывяжа яго бліжэй да БНР і Цябе, чалавек адчуе, што й ён патрэбны й на нешта можа прыдацца й застанецца толькі ўдзячным за гэта й будзе прыяцелем. Ён да гэтай пары быў збоку ад усяго партыйна-палітычнага жыцьця (нашага), хоць у сваю пару браў удзел у працы АБН у Вэнэцуэлі й за гэта пацярпеў нават ад тамашніх камуністаў і мусіў ад іх нават нейкі час хавацца (дзеля гэтага зьмяніў і прозьвішча на Гіцкі, як пабачыш з дасланага тут разам адрасу).*

*Твой Вітаўт Тумаш.*

*30 чэрвеня 1955 г.*

*«...Коратка пра радыёперадачу «Вызваленьне». З гледзішча матар'яльнага ня маю ніякіх падставаў пакідаць Вэнэцуэлю. Забясьпечаны й маю ўсе магчымасьці, як кажуць, стаць нагамі на ўласны грунт, іншымі словамі, — стацца гаспадаром вялікае фармы на новых землях (прапанавала дзяржава; нехаця сьмяюся й прыгадваю Коласавага дзядзьку ў Вільні). Прызнаньне й службовае становішча (дырэктар Экспэрымэнтальнага цэнтру Аграрнага інстытуту й Міністэрства земляробства ў вобласьцях эўрапейскіх каляністаў) паставілі мяне ў роўніцу з прывілеяванай інтэлігенцыяй краю (гэта, аднак, не выключае магчымасьці раптоўнага падзеньня: у краінах Паўдзённае Амэрыкі няма немагчымых рэчаў). Зрэшты, усе гэтыя плюсы й мінусы ня вельмі мяне й цікавяць, галоўнае ж палягае ў іншым. Я падыходжу да Вашае прапановы з гледзішча нацыянальнага, з гледзішча нацыянальнае карысьці мае працы й, нарэшце, з гледзішча духоўнага самазахаваньня. Нацыянальны бок справы — ясны, як Божы дзень; нацыянальная карысьць працы палягае ў чысьціні беларускае крыві, у нязломнасьці й вытрываласьці духу й сэрца; трэба ж зубамі вырываць чорную карту жыцьця із крывавых рук чырвонага акупанта-далакопа!*

*Калі нацыянальная рэвалюцыйная інтэлігенцыя і Ўрад БНР уважаюць кандыдатуру мае асобы карыснай і патрэбнай — я не магу не згадзіцца й не прыняць Вашую прапанову.*

*Безумоўна, загадзя мушу знаць наступнае: 1. службовае становішча. 2. месячны заработак (бяру на ўвагу забясьпечаньне сям'і ў Нямеччыне). 3. адпаведныя гарантыі й г. д.*

*Ул. Дудзіцкі».*

У 1956 годзе Уладзімір Дудзіцкі прыехаў у Мюнхен як новы дырэктар Радыё «Вызваленне». Гэта быў плённы час — для творчасці, але няпросты побытава. Нехта з калегаў не мог дараваць «уласаўскага» эпізоду, хтосьці згадваў п'яныя выбрыкі. Але пачалі заўважаць за ім новую хваробу — манію пераследу. Як згадваў Янка Запруднік, аднойчы жонка Дудзіцкага зазваніла да яго з просьбаю тэрмінова прыйсці. Сям'я, жонка і дзеці стаялі на лесвіцы, а Дудзіцкі нешта вышукваў у хаце. Калі ж абодва выйшлі на вуліцу, Дудзіцкі ўхапіў Запрудніка за паліто і сказаў: *«Даражэнькі, нічога не магу зрабіць: як прыходжу з працы, заўсёды здаецца, што за дзьвярыма НКВДыст стаіць і чакае».*

Зразумела, што доўга пратрымацца на пасадзе дырэктара радыё Уладзімір Дудзіцкі не мог. У 1962 годзе сям'я выехала ў Нью-Ёрк, дзе паэт некаторы час працаваў пазаштатным карэспандэнтам «Вызвалення», але і гэтая праца ішла з прыгодамі, таму ён ахвотна прыняў запросіны Масея Сяднёва на працу выкладчыка ў адной з навучальных установаў штату Індыяна. І гэта бадай апошнія дакладныя звесткі пра яго.

Праз кароткі час Уладзімір Дудзіцкі зноў знік. Яго сям'я па сёння не ведае, што адбылося. У беларускай грамадзе пачала хадзіць чутка, што ён паехаў у БССР. Такія чуткі характэрныя для эміграцыі: тут не аднойчы «хавалі» Уладзіміра Дубоўку, Язэпа Пушчу, Ларысу Геніюш, а што да вяртання ў Саветы — хто, як не былы ўласавец здатны на тое?! Прычым фактаў ніякіх не было: проста «казалі» ды спасылаліся на «тых, хто казаў».

Больш рэальнай выглядае іншая версія: зноў, як у сярэдзіне 1950-х гадоў, Уладзімір Дудзіцкі сваім зніknеннем вырашыў уласныя сямейныя праблемы, кінуўшы жонку з дзецьмі дзеля, мо, чарговага кахання і чарговай краіны.

Як бачна з яго біяграфіі, ён мог даць сабе рады ў гэтым жыцці. І — хто ведае — ён, можа быць, яшчэ жывы!

1 лютага 2019 | № 4 (615) Новы Час

# Курапаты — незагойны боль Беларусі



**Па гарызанталі:** 1. «Курапаты — … смерці». Артыкул Зянона Пазняка і Яўгена Шмыгалёва пра месца расстрэлу на ўскраіне Мінска сталінскімі катамі дзясяткаў тысяч мірных людзей. Артыкул быў надрукаваны ў газеце «Літаратура і Мастацтва» 3 чэрвеня 1988 года. 5. Біл … Прозвішча 42-га прэзідэнта ЗША, які ў студзені 1994 года наведаў Курапаты. У гонар гэтай падзеі тут была ўсталяваная лава ад прэзідэнта, якую пазней разбурылі нелюдзі-вандалы. 6. Дзень з алеем, а … дні галеем (прыказка). 8. «Другія катамі былі,// Іх спадчына — бізун, … ,// І апраўдання ім няма». З верша Алеся Каско «Узрушэнні». 13. «Колькі жыццяў сцята?// Чый тут прах?// Не адкажа// Сталінскі …». З верша Мікалая Маляўкі «Помнік». 14. Раніца. 15. «Чорны …, чорны кляты,// Пад'язджаў пад Курапаты». З верша Алега Лойкі «Курапаты». 16. След ад фарбы. 18. «Ён расстраляны.// Ды ці ён … ?// Забіты тысячы ў лагерах савецкіх». З верша Г. Дашкевіч «Максіму Гарэцкаму». 20. Дух прыроды ў скандынаўскай міфалогіі. 22. «Чэкістамі закатаваны,// На могілках непахаваны,// Паўстань, крывіцкі …!». З верша Рыгора Барадуліна «Куцця». 24. Пракляцце або …; тое, чаго заслугоўваюць сталінскія каты. 25. «Застыў дзявочы смех, жаночы спеў.// Замест вачэй глядзяць на … вачніцы». З верша Анатоля Дэбіша «Курапаты». 26. «Эх, чаго нам ні прышлося// … мілыя, ужыць!// Колькі талентаў звялося,// Колькі іх і дзе ляжыць// Невядомых, непрызнаных,// Не аплаканых нікім». З паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка».

**Па вертыкалі:** 1. Літаратурны твор, напісаны ў форме гутаркі, размовы. 2. Усходні вецер. 3. Адзінка вымярэння аб'ёму і ёмкасці. 4. «Арыштаваныя крыжы.// Нябесны Ойча, адкажы,// Ці … нам брацца за нажы,// Ці падстаўляць шчаку другую». З верша Уладзіміра Някляева «Крыжы», у якім паэт распавядае пра тое, як былі арыштаваныя крыжы, што сумленныя беларусы везлі ў Курапаты. 7. «Жыве …, хоць жадаюць і сёння// Ёй смерці чужынцы і юды свае!» З верша Міколы Ермаловіча «Жыве Беларусь!». 9. «І люднасць, і розум ужо не для іх,// яны — як чума, як …,// І колюць, і тнуць — забіваюць слабых,// ўвесь род, усю радзіну адразу». З верша Ларысы Геніюш «Янычары». 10. Палітыка знішчэння насельніцтва; такім тэрмінам можна азначыць забойства людзей органамі НКУС. 11. «Б'е трыццаць сёмы і праз пяцьдзясят// Спрэс расстралянай памяццю людскою// І сотнямі мясцовых Курапат,// Якім праз … не зарасці травою». З верша Ніны Аксёнчык «Свяшчэнны суд». 12. Перадсмяротны стан арганізма. 15. Высокі дрэвападобны хмызняк, або назва буйнога касметычнага прадпрыемства Беларусі. 17. Тое, што і крылы. 19. «Дзе атлусцелы, як пітон,// Крыві напіўшыся навек// Чырвоны … гуляе». З верша Зянона Пазняка «Сляпянскі лес». У Сляпянскім лесе, што побач з Мінскам, таксама, як і ў Курапатах, былі расстраляныя НКУС дзясяткі тысяч мірных грамадзян. 21. …-Ёдкава; вёска побач з Мінскам, некаторыя жыхары якой былі сведкамі курапацкай трагедыі і паведамілі пра гэта прадстаўнікам СМІ. 23. Жоўта-чырвоная фарба.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «З Новым годам, Радзіма мая!» (НЧ №48 ад 28 снежня):**

**Па гарызанталі:** 1. Сям'я. 5. Алтар. 8. Крывічане. 10. Агат. 11. Бярлог. 12. Рыска. 15. Ігрок. 16. Мароз. 19. Краса. 21. Каляда. 23. Анёл. 24. Падарункі. 26. Лекар. 27. Лета.

**Па вертыкалі:** 1. Саначкі. 2. Як. 3. Хвоя. 4. Снег. 6. Люты. 7. Ручаі. 9. Завіруха. 12. Размах. 13. Старанне. 14. Мікола. 17. Зямліца. 18. Шквал. 20. Сыта. 21. Край. 22. Друг. 25. Іл.

# БагатаДата

### 2 лютага

Сусветны дзень водна-балотных угоддзяў. У гэты дзень у 1971 годзе ў іранскім Рамсары была падпісаная Канвенцыя з мэтай абароны водна-балотных угоддзяў перадусім як мясцінаў, дзе жывуць вадаплаўныя птушкі.

У 1494 годзе нарадзілася каралева польская і вялікая княгіня літоўская, дачка міланскага герцага Бона Сфорца, жонка Жыгімонта І Старога, маці Жыгімонта ІІ Аўгуста. У яе атачэнні было шмат суайчыннікаў-італьянцаў. Пры Сфорца істотна змянілася меню арыстакратычных колаў Польшчы і ВКЛ. З'явіліся экзатычная садавіна і прыправы. Распаўсюдзілася карыстанне відэльцамі. Злыя языкі казалі пра дасканалае валоданне Бонай Сфорца атрутамі і, у прыватнасці, абвінавачвалі яе ў атручванні нявесткі Барбары Радзівіл. Той самай «Чорнай панны Нясвіжа».

### 3 лютага

У 1919 годзе на Усебеларускім з'ездзе Саветаў прынялі першую Канстытуцыю БССР, хаця самастойнасці БССР не мела, бо была створаная і кіравалася з Масквы. Першая Канстытуцыя яе грунтавалася на Канстытуцыі РСФСР 1918 года. Змест быў кароткім — усяго 32 артыкулы. Шмат казалася пра Саветы і эксплуатаваны народ, сярод іншага праца прызнавалася абавязкам пад лозунгам: «Хто не працуе, той не есць».

У 1989 годзе ў Мінску памёр скульптар-манументаліст Анатоль Анікейчык. У Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце (цяпер Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) вучыўся ў народных мастакоў Андрэя Бембеля і Аляксея Глебава. Потым выкладаў там сам. Браў удзел у стварэнні помнікаў Янку Купалу ў аднайменным скверы, на сталічных Вайсковых могілках і ў Араў-парку ў ЗША, помніка Мікалаю Гастэлу і яго экіпажу ў Радашковічах. Напрыканцы жыцця працаваў над помнікам Кастусю Каліноўскаму, але паспеў зрабіць толькі чарнавы эскізны праект.

### 4 лютага

У 1934 годзе ў вёсцы Вётхава Смаргонскага раёна нарадзіўся фалькларыст і літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Арсень Ліс. Працаваў настаўнікам, быў аўтарам падручнікаў для ВНУ, сябрам экспертнай рады Вышэйшай




атэстацыйнай камісіі Беларусі. У гэтым годзе сталаму аўтару «Новага Часу» споўнілася б 85 гадоў.

### 6 лютага

105 гадоў таму, у 1914 годзе ў Саматэвічах Касцюковіцкага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся адзін з самых вядомых беларускіх паэтаў — Аркадзь Куляшоў, аўтар хрэстаматыйных школьных твораў. У школу пайшоў, не маючы 4 годзікаў, першы верш апублікаваны ім у 12 гадоў.

З цікавых творча-біяграфічных фактаў: меў па бацькавай лініі італьянскія карані. Быў у арыштанцкім спісе НКУС пад нумарам 13, які ў 1938 годзе прынеслі на подпіс кіраўніку БССР Панцеляймону Панамарэнку. Той, нібыта, паехаў да Сталіна, і ў выніку Якубу Коласу і Янку Купалу ордэры на арышт замянілі ордэнамі. Іншых, як і Куляшова, пакінулі ў спакоі. У сталым веку, за 60 гадоў, пачаў перапіску са сваім першым каханнем з напісанага ў 14 гадоў верша «Бывай» (у рэпертуары «Песняроў» гэта песня «Алеся»). Працаваў галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм», быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

### 7 лютага

2014. Пачаліся зімовыя Алімпійскія гульні ў Сочы, на якіх Беларусі заваявала найбольшую колькасць залатых медалёў у сваёй суверэннай гісторыі: пяць. Тры на рахунку біятланісткі Дар'і Домрачавай і па адным заваявалі фрыстайлісты Ала Цупер і Антон Кушнір.

### 8 лютага

1914. У Баранавічах нарадзіўся паэт і грамадскі дзеяч Валянцін Таўлай. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, адкуль быў выключаны за вучнёўскі страйк. Затым неаднойчы быў рэпрэсаваны польскімі ўладамі за падпольную грамадска-палітычную дзейнасць у Заходняй Беларусі. Падчас нямецка-савецкай вайны быў разведчыкам, пасля яе працаваў намеснікам дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы.

1929. Нарадзіўся Леанід Лыч, беларускі гісторык, кіраўнік Тапанімічнай камісіі пры прэзідыуме Вярхоўнага Савета ў першай палове 1990-х гадоў. Напісаў манаграфіі і кнігі «Беларуская нацыя і мова», «Назвы зямлі беларускай», «Гісторыя культуры Беларусі», «Нарысы гісторыі Беларусі». Дарэчы, аўтар «Новага Часу»!

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №174

Падпісана да друку 01.02.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.